*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 4 сакавіка 1988 г. № 10 (3420) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## У НУМАРЫ:



**Набліжаецца 8-га Сакавіка, Міжнародны жаночы дзень. «ЛіМ» горача віншуе жанчын са святам вясны і прыгажосці і прапануе сёння на сваіх старонках бліжэй пазнаёміцца з творчасцю мастачкі Аляксандры Паслядовіч, актрысы Вольгі Клебановіч, спявачкі Валянціны Пархоменка (стар. 8, 10—11, 13).**

*На здымку нашага фотакарэспандэнта Ул. Крука — актрыса Рускага тэатра БССР імя М. Горкага, заслужаная артыстка рэспублікі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР В. КЛЕБАНОВІЧ.*

## З ПОШТЫ «ЛіМа»

# ● ФАЛЬКЛОР І КАМП'ЮТЭР
# ● *ЯК АСВОЙВАЮЦЬ ЛОШЫЦУ*
# ● ПРЫЕХАЛІ, ЗАСВЕДЧЫЛІ... А ДАЛЕЙ?
# ● *УМЕЦЬ БАЧЫЦЬ І ПАРАЎНОЎВАЦЬ*
# ● ПАМЫЛКІ ТРЭБА ВЫПРАЎЛЯЦЬ

«...Баба, маладуха як заўсёды сваю «скакуху», як пачне набіраць свае песні-карацелькі тысячай зярнят, як раскіне імі ўправа, улева, навокал, сыпане гукамі і агеньчыкамі вачэй, махне хусцінкай, дробненька затупае чаравікамі, закруціцца ваўчком — гэта віхурыць віхор на скрыжаванні. Нешта падобнае ў нашых велікарускіх жанчын, у прыгаворках і прымаўках, але ім далёка да беларускіх...»,— гэтыя словы належаць вядомаму фалькларысту і этнографу мінулага стагоддзя П. Бяссонаву, які збіраў і вывучаў беларускі фальклор.

Але як зрабіць, каб напісанае ім жыло не толькі на старонках старой кніжкі, як захаваць фарбы і вобразы фальклору ў дні сённяшнім?

Адзін з надзейных сродкаў — гэта збіранне і запіс узораў народнай творчасці. Разам з іншымі такую работу праводзіць і Мінскі інстытут культуры, пры кафедры харэаграфіі якога вось ужо некалькі гадоў працуе галіновая навукова-даследчая лабараторыя беларускай танцавальнай творчасці. Яе супрацоўнікі разам са студэнтамі-харэографамі штогод выязджаюць у экспедыцыі і збіраюць танцавальны фальклор, імкнуцца стварыць своеасаблівы «банк» народнай харэаграфіі. Танцы, знойдзеныя ў вёсачках і сёлах (а мы знаходзім часам і рэдкія, дагэтуль нікому невядомыя), запісваюцца самым распаўсюджаным у харэаграфіі літаратурна-графічным спосабам, фіксуюцца на кінафотаплёнку, магнітафонную стужку, сістэматызуюцца, каталагізуюцца і г. д.

Паколькі старажытны і, дарэчы, самы яскравы пласт фальклору — традыцыйныя беларускія танцы — імкліва знікаюць з быту (а шмат ужо знікла), сціраюцца з памяці, адыходзяць разам са старымі людзьмі, задача захавання гэтага багацця ўяўляецца нам надзвычай патрэбнай і высакароднай. Думаю, што нашчадкі будуць удзячны за захаванне гэтага помніка духоўнай культуры, які, на жаль, не зафіксаваны ні ў каменнай, ні ў драўлянай, ні ў палатнянай творчасці народа, і які не мае пакуль яшчэ сістэмы запісу, якая магла б зраўняцца з нотным запісам у музыцы.

Вядома, справа не толькі ва ўдзячнасці нашчадкаў, пытанне стаіць больш востра і шырока. Пытанне гэтае мае значэнне і для сённяшняга дня. Яно актуальнае таму, што фальклор усё больш і больш робіцца неад'емнай часткай сучаснай мастацкай культуры.

Наша эпоха навукова-тэхнічнай рэвалюцыі з яе сродкамі масавых камунікацый дае нам для гэтага новыя магчымасці. І, у прыватнасці, акрамя кіна- і відэатэхнікі, наспела магчымасць закласці ўсе фальклорныя фонды ў памяць камп'ютэра, зрабіўшы іх даступнымі для сучасных і будучых харэографаў.

Самім харэографам гэту справу не адолець. Тут патрэбны прафесійныя праграмісты, людзі, якія ведаюць магчымасці камп'ютэрнай тэхнікі, працуюць з ёй і могуць рашаць новыя задачы. Бо яны, тыя задачы, уяўляюцца нам вельмі складанымі і патрабуюць аб'яднання намаганняў «фізікаў» і «лірыкаў», харэографаў і інжынераў-матэматыкаў, якія працуюць з вылічальнай тэхнікай. Праблема ўскладняецца яшчэ тым, што наша галіновая лабараторыя не мае ўласнага камп'ютэра (хоць у інстытуце ёсць дзве вылічальныя машыны, але з іх дапамогай вырашыць гэтую праблему немагчыма), а таксама тым, што падобныя задачы не вырашаліся яшчэ не толькі ў нашай краіне, але, наколькі мне вядома, і за рубяжом

Дык, можа, сярод нашых маладых прадстаўнікоў свету вылічальнай тэхнікі знойдуцца аматары харэаграфіі і ў цэлым народнай творчасці, якія возьмуцца нам дапамагчы? Мы будзем рады бачыць такіх энтузіястаў у Інстытуце культуры.

**Ю. ЧУРКО,**
**доктар мастацтвазнаўства, загадчык кафедры харэаграфіі Мінскага інстытута культуры, навуковы кіраўнік галіновай навукова-даследчай лабараторыі беларускай танцавальнай творчасці.**

●

Новы жылы раён Паўднёвы Захад у Мінску вырас зусім нядаўна. Аднак сярод бетонных гмахаў не багата зялёных пасадак, няма ніводнага парку, дзе б маглі адпачыць жыхары мікрараёна.

Таму невыпадкова інстытут «Мінскпраект» узяўся за праектаванне парку па праспекце газеты «Правда». Будучы парк размесціцца ў зоне мікрараёнаў Малінаўка-1 і Малінаўка-2, у маляўнічай і некалі зялёнай пойме ракі Лошыца. На яе аснове мяркуецца стварыць сістэму штучных вадаёмаў і дэкаратыўных водных каскадаў, якія ўвойдуць у склад Лошыцкай воднай сістэмы. Парк па праспекце газеты «Правда» стане першым этапам добраўпарадкавання мікрараёна.

Здавалася б, усё складваецца як найлепш: вядзецца ландшафтнае асваенне даліны ракі Лошыца — своеасаблівага зялёнага калідора са старым урадлівым пластом глебы, з зялёнымі пасадкамі, якіх так шмат па берагах вадаёмаў. Аднак упраўленне механізацыі і спецыяльных работ № 154, якое вядзе будаўніцтва суседніх раёнаў, нягледзячы на шматлікія пратэсты «Мінскпраекта» ў адрас ГалоўАПУ Мінгарвыканкома, Маскоўскага райвыканкома, ВА «Мінскзелянбуд», Камітэта па ахове прыроды, арганізавала распрацоўку грунту і звалку будаўнічага смецця і грунту на векавы глебавы пласт поймы ракі Лошыца на тэрыторыі парку.

За кароткі тэрмін зялёныя схілы былі знявечаны кар'ерамі глыбінёй да 12 м, у якія паваліліся магутныя дрэвы і кусты, даліна ракі Лошыца на плошчы больш чым 12 га была засыпана адваламі грунту і гарамі смецця. Часткова былі засыпаны вадаём і вербы, што раслі тут. Некалі маляўнічы пейзаж, характэрны для нашых малых беларускіх рэк, ператварыўся ў нагрувашчанне камлыг, абрываў і ям. Гэтыя разбурэнні маюць незваротны характар. Ужо не вярнуць натуральны прыродны ландшафт, а каб закласці парк на гэтых адвалах, спатрэбяцца значныя сродкі на рэкультывацыю зямлі: больш як 200 тыс. рублёў. Не кажучы ўжо пра тое, што на адвальных грунтах вельмі цяжка прыжываюцца саджанцы, а для іх фарміравання спатрэбіцца больш за 20 гадоў. Трывогу і неспакой выклікае яшчэ і тое, што дасюль не ўдалося спыніць гэты вандалізм у адносінах да прыроды, а ў канчатковым выніку і да жыхароў жылога раёна Паўднёвы Захад, якія яшчэ доўга не змогуць цешыцца зялёным гоманам цяністага парку.

**М. ЖЛОБА,**
**галоўны архітэктар інстытута «Мінскпраект».**

●

9 снежня 1983 года гісторыка-мемарыяльная камісія Саюза пісьменнікаў БССР у складзе М. Лужаніна, А. Мальдзіса, М. Гамолкі, А. Ліса і А. Грыцкевіча прыехала ў Навасёлкі Дзяржынскага раёна на магілу Каруся Каганца. Камісія дакументальна засведчыла, дзе знаходзіцца магіла, і дала справаздачу ў «ЛіМе» ад 20 студзеня 1984 года.

Пасля апублікавання гэтай справаздачы ў школу пасыпаліся пісьмы з просьбай выслаць фатаграфію магілы, наведваліся турысты. Трэба было паказаць магілу. Але якая яна? Пусты курганок, на якім, як пісаў у 1928 годзе этнограф М. Каспяровіч у часопісе «Наш край», куст «чырвоным сорамам гарыць»... Вось, бадай, і ўсё. І ніякага помніка, знака...

Гаворка аб узвядзенні помніка ішла ў Дзяржынскім райвыканкоме, але пакуль што ніякіх вынікаў няма. А каб людзі маглі паглядзець, дзе гэтая магіла, то школьнікі зрабілі свой знак — вядома, часовы. Устанавілі ўказальнік ля дарогі (могілкі знаходзяцца побач з дарогай Навасёлкі — Юцкі). Але кіраўнікі раёна прапанавалі ўказальнік той зняць.

Вядома, раённаму начальству не да твару, што кожны наведвальнік будзе папракаць іх за абыякавасць у адносінах да памяці пісьменніка-дэмакрата, з дня нараджэння якога неўзабаве споўніцца 120 год, а 20 мая — 80 гадоў з дня смерці.

У заключэнне хацелася б запытацца: дзе будзе стаяць знак — на паперы ці на магіле?

**Л. ЕРМАЛОВІЧ,**
**настаўнік Навасёлкаўскай СШ, ветэран вайны і працы.**
Дзяржынскі раён.

●

Менш за ўсё я хацеў бы, каб гэты ліст насіў палемічны характар: ці ёсць сэнс нам сёння вяртацца да спрэчак шматгадовай даўніны? Кажуць, што гісторыя паўтараецца, адзін раз у выглядзе трагедыі, другі — у выглядзе фарсу. Былі гады, калі з вокнаў Акадэміі мастацтваў ляцелі гіпсавыя «антыкі», але ж потым нават імпрэсіянізм лічыўся шкодным і вульгарным.

Такім чынам, да нас вяртаюцца авангардныя накірункі ў мастацтве. Шэраг мастацтвазнаўцаў летась так альбо інакш спрабавалі асэнсаваць асобныя аспекты «нефармальнага» мастацтва, і толькі цяпер у Б. Крэпака («ЛіМ», 15 студзеня 1988 г.) дадзена прынцыповая і аб'ектыўная ацэнка гэтай з'явы ў цэлым, расстаўлены кропкі над «і». Але, відаць, пытанні застаюцца. Напрыклад, куды аднесці творчасць С. Малішэўскага ці І. Кашкурэвіча, калі зыходзіць са структуры Саюза мастакоў? Да секцыі жывапісу, графікі, скульптуры ці ДПМ? Ва ўсіх жа гэтых жанрах іх работы — на добрым узроўні (і колькі, дарэчы, мастакоў, якім падобная дыферэнцыяцыя па секцыях адрэзала магчымасць рознабаковага развіцця).

Але вярнуся да пытання пра сённяшні «рэнесанс» авангардызму. Сёння ніхто не можа спыніць развіцця «нефармальнага» выяўленчага мастацтва, як не можа, напрыклад, спыніць развіццё рок-музыкі, якая ў нашай краіне мае велізарную аўдыторыю. У практыку выставачнай дзейнасці ўсё больш прыходзіць разуменне, што няма дрэнных або добрых накірункаў у мастацтве, а толькі дрэнныя ці добрыя мастакі, што прадстаўляюць гэтыя напрамкі. Наглядны прыклад таму — рэакцыя крытыкі на XVII маладзёжную выстаўку на Кузнецкім мосце, вельмі блізкую

# АДЗІНАЯ, ШМАТНАЦЫЯНАЛЬНАЯ...

### Пленум праўлення СП СССР

**На 78-і мовах нясе чытачам слова праўды сучасная савецкая літаратура. Складаныя справы пісьменніцкіх арганізацый у такі складаны перыяд жыцця грамадства, як перабудова. Але і сярод гэтых клопатаў ёсць задача першаступенная, і звязана яна з неабходнасцю даражыць унікальнай рысай сацыялістычнай культуры — яе шматнацыянальнасцю.**

**Менавіта пра гэта ішла гаворка на пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, які праходзіў у Маскве 1—2 сакавіка. З дакладам «Удасканаленне нацыянальных адносін, перабудова і задачы савецкай літаратуры» на пленуме выступіў першы сакратар праўлення СП СССР У. Карпаў. Ён прааналізаваў работу пісьменніцкіх арганізацый, тэндэнцыі развіцця шматнацыянальнай савецкай літаратуры на сучасным этапе. Гаворачы аб творчасці пісьменнікаў Расійскай Федэрацыі, ён падкрэсліў, што за апошнія два гады іх кнігі прыцягнулі да сябе ўсеагульную ўвагу. Руская савецкая літаратура аказвае вялізны ўплыў на духоўны і маральны стан грамадства.**

**Першы сакратар гаварыў таксама аб прыкметных падзеях у літаратурным жыцці Украіны і Беларусі, Сярэдняй Азіі і Казахстана, Прыбалтыкі, Закаўказзя, Малдавіі. Ён звярнуў увагу на тое, што ва ўсіх рэспубліках пісьменнікі вядуць глыбокі аналіз праблем развіцця нацыянальнай культуры, роднай мовы.**

**Дакладчык спыніўся на праблемах двухмоўя, аб якіх сёння востра і шмат гавораць пісьменнікі розных рэспублік. Кожная мова — неад'емная частка нашага агульнага братэрства. У пытанні аб мове недапушчальны ніякія прывілеі і абмежаванні, тым больш прымус. Найвялікшая заваёва рэвалюцыі, найвялікшая наша каштоўнасць савецкі патрыятызм. Ён рашуча адмаўляе любыя праяўленні нацыяналізму і шавінізму, падкрэсліў У. Карпаў. Тут вельмі важнае слова пісьменніка, яго палітычная сталасць, разуменне сутнасці сапраўднага інтэрнацыяналізму.**

**У дыскусіі, якая разгарнулася пасля даклада, прынялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх саюзных рэспублік. Чырвонай ніткай праз усе выступленні праходзіла думка аб тым, што інтэрнацыяналізм, дружба народаў — самае вялікае багацце краіны, аснова дабрабыту, падмурак для дасягнення вышэйшых камуністычных ідэалаў.**

**На пленуме заслуханы даклад сакратара праўлення СП СССР Ю. Верчанкі аб праекце новай рэдакцыі статута пісьменніцкай арганізацыі.**

**У рабоце пленума прынялі ўдзел загадчык аддзела культуры ЦК КПСС Ю. П. Воранаў, прадстаўнікі партыйных, савецкіх і грамадскіх арганізацый, кіраўнікі шэрагу міністэрстваў і ведамстваў.**

# Публіцыстыка і перабудова

**Такая была тэма рэспубліканскага семінара пісьменнікаў і журналістаў, які адбыўся нядаўна ў Мінску, у Доме літаратара. У ім прынялі ўдзел пісьменнікі, супрацоўнікі сродкаў масавай інфармацыі і прапаганды, вучоныя, выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў, работнікі культуры.**

**З уступным словам на семінары выступіў першы сакратар праўлення СП БССР Н. ГІЛЕВІЧ.**

**Матэрыялы лютаўскага (1988 г.) Пленума ЦК КПСС, прамова на ім Генеральнага сакратара ЦК КПСС «Рэвалюцыйнай перабудове — ідэалогію абнаўлення» павінны стаць кіраўніцтвам да дзеяння ўсіх нас, сказаў пісьменнік. Адзначыўшы, што ў рэспубліканскім друку апошнім часам адбываюцца пэўныя станоўчыя зрухі, прамоўца заклікаў публіцыстаў скіраваць увагу на важнейшыя праблемы сённяшняга дня. Сярод іх — праблемы эканамічныя, сацыяльныя, экалагічныя. Асаблівай увагі патрабуе «экалогія культуры», якая ўключае ў сабе цэлы комплекс пытанняў — захаванне гістарычнай памяці народа, патрыятычнае і інтэрнацыянальнае выхаванне моладзі, выхаванне любові і пашаны да роднай мовы.**

**Як жа дасягнуць пералому ў свядомасці і настроях людзей, як дапамагчы ім пераадолець сацыяльную апатыю, інертнасць, якія так замінаюць працэсам дэмакратызацыі нашага грамадства? Як расказаць творчую ініцыятыву мас? Што трэба зрабіць каб чалавек сапраўды быў гаспадаром на сваёй зямлі, адчуваў адказнасць перад суайчыннікамі і нашчадкамі?**

**На гэтыя няпростыя пытанні спрабавалі — кожны па-свойму — адказаць у сваіх выступленнях пісьменнікі В. ЯКАВЕНКА, Л. ПРОКША, А. МАСАРЭНКА, загадчык аддзела «Сельской газеты» М. ШЫМАНСКІ, іншыя ўдзельнікі семінара.**

**Вельмі многае тут залежыць ад прафесійнага ўмення, майстэрства публіцыста, яго кампетэнтнасці, пачуцця новага, ад узроўню журналісцкай, пісьменніцкай, ды і агульначалавечай этыкі. І, вядома, мова сродкаў масавай інфармацыі сёння як ніколі не прымае трафарэтнасці, штампаў, шаблону. Пра гэта гаварылі прафесар БДУ Б. СТРАЛЬЦОЎ, пісьменнік А. КАРПЮК, карэспандэнт газеты «Заря» (Брэст) М. КУКСА, намеснік рэдактара газеты «Гомельская праўда» С. САВАСЦЕЕЎ.**

**Новае мысленне, гуманітарны стыль павінны прыйсці на змену тэхнакратычнаму стылю ў журналістыцы, сказаў прафесар кафедры журналістыкі**

# У САЮЗЕ ТЭАТРАЛЬНЫХ ДЗЕЯЧАЎ БССР

**Пад старшынствам М. Яроменкі адбылося чарговае пасяджэнне прэзідыума праўлення творчага саюза. Справаздачу па выніках мінулага года трымалі кіраўнікі грамадскіх камісій і творчых секцый, якія таксама прадставілі на абмеркаванне планы работы на 1988 год. Сярод найбольш значных мерапрыемстваў, што пройдуць неўзабаве, — пленум праўлення СТД БССР, прысвечаны актуальным праблемам дзіцячага тэатра, фестывалі «Прыбалтыйская тэатральная вясна-88» (Калінінград) і «Рампа дружбы» (Гродна), усесаюзны семінар «Нацыянальная драматургія і яе роля ў тэатральным працэсе» (Мінск).**

●

**Секцыя рэжысёраў драматычных тэатраў правяла нараду, на якой абмеркаваны творчы стан сцэнічных калектываў рэспублікі і перспектывы развіцця тэатральнай справы.**

●

**Секцыя крытыкі і тэатразнаўства наладжвае «вольную трыбуну», мэта якой — прынцыповае і зацікаўленае абмеркаванне надзённых праблем сучаснага тэатральнага працэ-**

## ДЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# ЛЮДЗІ РЭВАЛЮЦЫЙНАГА ГАРТУ

**Перабудова вымагае ад кожнага сацыяльнай і грамадзянскай актыўнасці, сапраўднага — *не на словах, а на справе!* — далучэння да рэвалюцыйных пераўтварэнняў, што адбываюцца ў грамадстве. Найлепшы прыклад тут — жыццё ветэранаў ленінскай партыі, тых, хто на розных гістарычных этапах увасабляў сваімі ўчынкамі, справамі, дзеяннямі вернасць велічным ідэалам, у імя якіх здзяйснялася Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя.**

Старых камуністаў, чый партыйны стаж пяцьдзесят і больш гадоў, сёння ў рэспубліцы звыш пяці тысяч чалавек. Некаторыя з іх — ветэраны партыі, вайны і працы — былі ўдзельнікамі сустрэчы ў Цэнтральным Камітэце Кампартыі Беларусі, якая адбылася 26 кастрычніка 1983 года. Цяпер яны — героі кнігі «Ветэраны ленінскай партыі» (складальнікі П. Лапец і М. Шумейка), выпушчанай выдавецтвам «Беларусь». На жаль, не ўсе з 18 ветэранаў змогуць прачытаць пра сябе нарысы — час няўмольны, усё менш застаецца разам з намі тых, хто стаяў ля вытокаў пабудовы новага свету.

У снежні 1984 года грамадскасць Мінска ўрачыста адзначыла 90-годдзе былога пуцілаўскага рабочага, матроса Балтыйскага флоту, удзельніка штурму Зімняга, члена партыі з сакавіка 1917 года Уладзіміра Адамавіча Вавёрава, а ў студзені 1985 года ветэрана не стала. Нарысам М. Жылінскага «Салдат рэвалюцыі», у якім прасочваецца доўгі жыццёвы шлях Вавёрава, расказваецца пра самааддане служэнне справе партыі і народа, і адкрываецца кніга.

Вартае пераймання і жыццё старэйшага камуніста рэспублікі, члена партыі з 1912 года Аляксандра Сцяпанавіча Касценкі. Першы кіраўнік рэчыцкай бальшавікоў, ён назаўсёды звязаў свой лёс з Рэчыцай, дзе да выхаду на пенсію ў 1954 годзе працаваў народным суддзёй. Як бачна з нарыса Э. Карніловіча «Рэвалюцыянерамі не нараджаюцца», А. Касценка мела пабачыў і перажыў, але самай памятнай была для яго сустрэча з Уладзімірам Ільічом Леніным.

Неаднойчы бачыў Ільіча і Георгій Цярэнцьевіч Шчарбінскі (нарыс Г. Каралёва «Крамлёўскі курсант»). У 1921—1923 гадах ён, тады яшчэ зусім юнак, праходзіў ваенную службу ў самім Крамлі, стаяў на пасту № 27, ахоўваючы кватэру Леніна. У трыццатыя гады Шчарбінскі знаходзіўся на розных пасадах у Чырвонай Арміі, у Вялікую Айчынную вайну змагаўся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, з баямі дайшоў да Берліна... Цяпер Георгій Цярэнцьевіч — ганаровы грамадзянін Оршы.

Сярод герояў кнігі — пісьменнік Сілан Гусеў (нарыс М. Кадзета «Аўроравец»). Сілан Нічыпаравіч, якога не стала летась, у пачатку кастрычніка 1917 года быў залічаны на крэйсер «Аўрора», быў камендорам (дарэчы, з 570 членаў экіпажа легендарнага крэйсера рэвалюцыі 75 былі выхадцамі з Беларусі), з атрадам рэвалюцыйных матросаў штурмаваў Зімні палац, пазней удзельнічаў у грамадзянскай вайне...

Жыццё ветэранаў — прыклад для пераймання нашчадкам. Тыя ж з іх, хто па-ранейшаму знаходзіцца ў жыццёвым страі, з'яўляюцца для моладзі яшчэ і духоўнымі настаўнікамі.

Кніга «Ветэраны ленінскай партыі» (з'явілася яна дзякуючы ініцыятыве Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП Беларусі і Саюза журналістаў БССР) — з тых выданняў, якія дапамагаюць адчуць сам подых рэвалюцыйнага часу.

**А. КУНЦЭВІЧ.**

# Архівы працуюць на ПЕРАБУДОВУ

Мы ганарымся здзейсненым і помнім сваю гісторыю: яе радасці і боль, гераізм і трагедыі. Гісторыя — пастаянны стымул разважаць, думаць, раіцца з вопытам і ўласным розумам. Тое, што мы сёння гэтак пільна ўглядаемся ў наша няпростае мінулае,—заканамерна. Для перабудовы патрабуецца дакладнае веданне, а не слабеючая памяць. Але для гэтага гісторыкам неабходна прааналізаваць мноства дакументаў, а гэта далёка не простая праца. Разгортванне перабудовы дало адказны сацыяльны заказ і гісторыкам-архівістам, закліканым забяспечыць даследаванні інфармацыйнай базай. Бо падмурак любой навукі — факты, дакладныя, свабодныя ад несправядлівай ацэнкі. Толькі ва ўсеўзброенні праўды можна разабрацца ў лабірынтах мінулага, знайсці і ўзяць з яго тыя зярняты, якія прарастуць не сумам і скепсісам, а ўпэўненасцю і аптымізмам, дадуць нам духоўную апору для новых імкненняў.

Наколькі вялікае наша архіўнае багацце? Больш чым 12 мільёнаў адзінак захоўвання цяпер у саставе той часткі Дзяржаўнага архіўнага фонду СССР, якая знаходзіцца ў беларускіх архівах. Але ёсць і горкі спіс бясследных страт. Кожная вайна прыводзіла да абяднення сховішчаў народнай памяці. І каб яе вызваліць ад прабелаў, прыходзіцца вельмі многае рабіць па пошуку ў краіне і за мяжой рэтраспектыўнай інфармацыі, папаўненню архіваў арыгіналамі або копіямі дакументаў па гісторыі Беларусі.

Асаблівая вялікая пошукавая работа праводзілася ў ваенныя і першыя пасляваенныя гады. Перамяшчаючыся з наступаючымі войскамі, аператыўныя групы архівістаў адшукалі і ўзялі на ўлік шэраг комплексаў фондаў дзяржаўных архіваў БССР, усяго больш за 4 мільёны спраў, з якіх каля мільёна належала адпраўцы ў Беларусь. З Рыгі ў Мінск былі вернуты каля 100 тысяч спраў профілю Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва (ЦДАКР) БССР. Амаль сем вагонаў дакументаў паступілі з Латвіі ў гістарычны і абласны архівы Магілёўскай вобласці. З Вільнюса ў Віцебск было перавезена 714 тысяч спраў, з горада Трапау ў Мінск—тры вагоны старажытных актаў. Рээвакуіравалі таксама дакументальныя матэрыялы дзяржаўных архіваў Гомельскай і Магілёўскай абласцей з Тамбова і Саратава.

Трэба адзначыць, што ўсё, што з дзяржархіваў Вілейскай, Віцебскай і Гомельскай абласцей паспелі перамясціць у суровую ваенную пару ў глыбіню краіны, вярнулася ў цэласці і захаванасці. Дакументальным матэрыялам, якія аказаліся на акупіраванай тэрыторыі, былі нанесены велізарныя, нічым непапаўняльныя страты. У перыяд вайны было загублена, калі быць дакладным — 11836 тысяч спраў, якія захоўваліся ў дзяржаўных і ведамасных архівах рэспублікі. Да гэтага часу, напрыклад, ЦДАКР БССР не аднавіў даваенных калекцый дакументаў, поўнасцю загінуў, на жаль, і яго навукова-даведачны апарат.

Не ўсё, вядома, было фізічна знішчана. Час ад часу выяўляюць тыя або іншыя дакументы ў суседніх рэспубліках. Ад нашых даследчыкаў паступаюць паведамленні і аб знаходках у архівах Польшчы, Швецыі, Англіі, ЗША. Але, як паказвае практыка, найбольшую каштоўнасць маюць тыя матэрыялы, якія адкладаліся ў фондах, сумежных па сваім змесце з рэтраінфармацыяй дзяржаўных архіваў БССР. У архівах, бібліятэках і музеях УССР, Літоўскай ССР, Масквы і Ленінграда знаходзіцца найбольш інфармацыйных масіў даных па гісторыі нашай рэспублікі. І гэта заканамерна. Бо гісторыя беларускага народа, яго вызваленчая барацьба, культура, непарыўна звязаны з гісторыяй рускага, украінскага і літоўскага народаў.

Асаблівую цікавасць маюць выяўленыя ў мінулым годзе ў Маскве дзесяць хранікальна-дакументальных фільмаў (Рэвалюцыйная перамога ў г. Віцебску, 1923 г.; Разбурэнне г. Мінска немцамі, 1945 г., англійскі варыянт і інш.), а таксама каля 2 тысяч фондаў арганізацый і ўстаноў, якія захоўваюць звесткі па гісторыі Беларусі. Апошнія былі выяўлены з дапамогай аўтаматызаванай інфармацыйна-пошукавай сістэмы і знаходзяцца ў ЦДА СССР. Так, у Цэнтральным дзяржаўным ваенна-гістарычным архіве СССР у фондзе «Галоўны начальнік Мінскай ваеннай акругі на тэатры ваенных дзеянняў» захаваліся дакументы аб эвакуацыі з прыфрантавой паласы (1914—1917 гг.), па якіх можна дэталёва ўстанавіць, што і куды было вывезена. Там жа, у фондзе «Упраўленне па дэмабілізацыі пры штабе Вярхоўнага Галоўнакамандуючага, г. Магілёў» ёсць звесткі аб фарміраванні Чырвонай Арміі, аб дзейнасці бальшавікоў — Крыленкі М. В., Падвойскага М. І., Антонава-Аўсеенкі В. А. У Цэнтральным дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва СССР у фондзе Аўрамчыка С. В., Валевіча А. К., Куліненкі Е. С. (збіральнікаў беларускага фальклору) ёсць малавядомыя частушкі, песні, запісаныя імі адпаведна ў 1937, 1923—1936, 1939—1940 гадах. Аналагічныя матэрыялы за 1926 г. з вынікамі фальклорных экспедыцый захаваліся ў дакументах рэдакцыі газеты «Беднота».

У выяўленых дакументах Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі, вышэйшых органаў дзяржаўнай улады і органаў дзяржаўнага кіравання (ЦДАКР) СССР ёсць даныя аб дзейнасці камісій па паляпшэнні жыцця дзяцей, дзеткамісій пры Прэзідыуме ЦВК БССР, камісіі па арганізацыі і распараджэнні фондам імя У. І. Леніна дапамогі беспрытульным дзецям пры Прэзідыуме ЦВК БССР (1924—1938 гг.). Можна прывесці і іншыя прыклады.

Неабходна адзначыць, што да гэтага часу ў архівы паступаюць дакументы тых устаноў і арганізацый, дзейнасць якіх была звязана толькі з Беларуссю. Так, нядаўна з архіваў Літвы прыйшло паведамленне, што выяўлены і перададзены нам больш за сто фондаў, у тым ліку дакументы беларускіх прэс-бюро ў Рызе і Коўна (1920—1921 гг.), рэдакцыі газеты «Гоман» (1916—1918 гг.) і многае іншае.

Работа гэта асабліва інтэнсіўна вялася ў 50—60-я гады. У той час стварыўся Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР, сховішча якога прыняло больш як 20 фондаў з-за межаў рэспублікі, у тым ліку паэта Адама Гурыновіча з Польшчы, перакладчыка Георгія Вылчава з Балгарыі. З Масквы, Ленінграда, Саратава, Яраслаўля, Растова-на-Доне, Караганды і Ташкента паступілі дакументы паэтэсы К. Буйло, перакладчыка П. Кабзарэўскага, пісьменніка Я. Дылы, сям'і М. Багдановіча, паэта А. Жаўрука, паэта К. Каганца, паэта і крытыка С. Ліхадзіеўскага і г. д.

У гэтыя гады быў апісаны і фонд былога Беларускага музея ў Вільні, які ўтрымлівае матэрыялы па этнаграфіі і гісторыі нашай рэспублікі, рукапісы, пісьмы і асабістыя дакументы беларускіх пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў дарэвалюцыйнага перыяду, матэрыялы аб пісьменніках і паэтах Заходняй Беларусі 1919—1939 гг., аб дзейнасці рэдакцый газет і выдавецтваў, якія выпускалі беларускую літаратуру. Усё, што захоўвалася ў ЦДА Літоўскай ССР (г. Вільнюс), даўно перададзена нам. Сярод атрыманага ад літоўскіх архівістаў — матэрыялы судовага следства па справе Якуба Коласа, асабістыя дакументы пісьменніцы А. Пашкевіч (Цёткі), дакументы часопіса «Маланка», газеты «Наша Ніва», рукапісы шэрагу твораў Кандрата Крапівы і Максіма Танка.

Аднак частка фонду былога Беларускага музея знаходзіцца ў рукапісным аддзеле бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР і да гэтага часу, на жаль, не перададзена ў нашу рэспубліку. На наш погляд, неабходна, каб Беларускае аддзяленне Савецкага фонду культуры сумесна з зацікаўленымі арганізацыямі, грамадскасцю вырашыла пытанне аб перадачы гэтых дакументальных рэліквій у рэспубліку.

Мы спадзяёмся з дапамогай Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры папраўіць становішча са сродкамі для пошукавых камандзіровак і для выдання даведачнай літаратуры. Хацелася б, каб выкарыстанне дакументаў не кранулася вакол па сутнасці адных і тых жа фондаў, як гэта склалася цяпер. Паводле падлікаў выкарыстоўваецца прыкладна два-тры працэнты з усяго акіяна архіўнай дакументацыі. З улікам сучаснай грамадскай цікавасці да гісторыі добра было б, калі б выкарыстанне ўзрасло і перавысіла гэтыя два-тры працэнты. Апошнія, як мне думаецца, сведчаць аб пэўнай інертнасці даследчыкаў і далёка, вядома, не вычэрпваюць нашы магчымасці ў далейшым пазнанні гісторыі Радзімы.

Відавочна, што пошук дакументаў непарыўна звязаны з іх выкарыстаннем. Дастаткова ўявіць, што цяпер Дзяржаўны архіўны фонд краіны (ДАФ СССР) складае больш як трыста сорак мільёнаў адзінак захоўвання. Ясна, што без компаса, які ўказвае мэту ў гэтым масіве, немагчыма знайсці тое, што з'яўляецца ў даны момант патрэбным. Напрыклад, нам у шэрагу выпадкаў вядома, дзе і што ляжыць па гісторыі дзейнасці ў Беларусі рэлігійных ерэтычных арганізацый розных напрамкаў. Але гэтыя дакументы, нягледзячы на іх несумненную інфармацыйную і гістарычную каштоўнасць, вельмі мала выкарыстоўваюцца. У гэтай сферы працуюць усяго некалькі вучоных, якія не ў стане перапрацаваць хоць бы тыя горы папер, што пад рукой.

Для інтэнсіфікацыі выкарыстання ДАФ СССР, а значыць і мэтавага выяўлення дакументаў, распрацавана спецыяльная праграма. Яна прадугледжвае актыўную работу перш за ўсё з тымі матэрыяламі, прымяненне якіх прынясе эфект. Возьмем, напрыклад, рэстаўрацыю помнікаў гісторыі культуры. Праекты гэтых збудаванняў знаходзяцца часта не ў Цэнтральным дзяржаўным архіве навукова-тэхнічнай дакументацыі БССР, а за межамі рэспублікі ў фондах архіваў, музеяў, рукапісных аддзелаў бібліятэк. Вось і стаіць задача перад архівам, дзе знайсці, як скапіраваць, каб хутчэй перадаць спажыўцам патрэбную інфармацыю.

Як узяць з гісторыі агонь, а не попел? Гэта адна з праблем, якая пастаянна стаіць у цэнтры ўвагі беларускіх архівістаў. Іменна таму ў гэтай пяцігодцы пачаліся і актыўна вядуцца работы па ўкараненні ў архіўную справу персанальных камп'ютэраў, якія павінны дапамагчы знайсці шукаемае, «прагартаўшы» за лічаныя мінуты ўвесь рэспубліканскі каталог.

Цяпер у асноўным толькі архівісты рэспублікі выкарыстоўваюць для тэматычнага пошуку аўтаматызаваную сістэму навукова-тэхнічнай інфармацыі па дакументах Цэнтральных дзяржаўных архіваў СССР, створаную ва Усесаюзным навукова-даследчым інстытуце дакументазнаўства і архіўнай справы. Што ж датычыць беларускіх гісторыкаў, краязнаўцаў, то яны, за рэдкім выключэннем, амаль не звярталіся да гэтага высокаэфектыўнага інструменту пошуку. (Да ведама — тэлефон для даведак у Маскве 245-81-15).

Вялікія і складаныя задачы стаяць перад установамі дзяржаўнай архіўнай службы рэспублікі ў святле рашэнняў XXVII з'езда КПСС і новых патрабаванняў да гістарычнай навукі, пастаўленых у выступленні М. С. Гарбачова на святкаванні 70-годдзя Вялікага Кастрычніка. Працоўныя калектывы дзяржаўных архіваў з энтузіязмам і энергіяй вядуць пошук новых дакументаў па гісторыі Беларусі, настойліва і мэтанакіравана перабудоўваюць архіўную справу, узнімаючы яе на якасна новы ўзровень.

...Памяць і вопыт заўсёды побач. У архіўных кардонных скрынках, што змясцілі на вечнае захоўванне нашу няпростую гісторыю, нашы веды, за кожным лістом — чыёсьці жыццё, яго ўзлёты і спады, мары. Яны не зніклі бясследна, яны захоўваюцца ў арсенале, каб у любы дзень, гадзіну да іх можна было звярнуцца і выкарыстаць у ходзе перабудовы.

**А. МІХАЛЬЧАНКА,**
**намеснік начальніка Галоўнага архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў БССР.**

## КРЫТЫКА, БІБЛІЯГРАФІЯ

# «УСЯ МАЯ ДУША»

**Я. ЯНІШЧЫЦ. Каліна зімы. Кніга лірыкі. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987.**

ЁСЦЬ ПАЭЗІЯ, першапачаткова арыентаваная на мастацкі эксперымент, на кардынальнае абнаўленне ўсёй сферы мастацкага пошуку, пазначанага часам.

І ёсць паэзія больш стабільная ў *выяўленні* духоўнага зместу гэтага часу, — стабільная ў тым сэнсе, што першай і галоўнай мерай яе эстэтычнай дзейснасці застаецца мера душы чалавека. Такі спосаб існавання паэзіі, менавіта лірыкі, не менш складаны, чым адкрытая мастацкая рызыка прыхільнікаў паэтычных навацый.

Лірыка Яўгеніі Янішчыц менавіта такога характару. Яна спаўна раскрывае свет чалавечай душы, і найперш праз яе эмацыянальна-пачуццёвы вопыт; яна і звернута адпаведна да пачуццяў чалавека, апелюе да яго здольнасці суперажывання — якасці надзвычай каштоўнай у чалавечай культуры.

Вось цыкл вершаў, прадыктаваных мацярынскім болем і трывогай за жыццё сына, якое раптам апынулася пад пагрозай, — «Маё адно-адзінае світанне». Ён кранае непадзельнасцю чалавечага і паэтычнага лёсу *аўтара, тым сплавам жыцця* і творчасці, які з'яўляецца характэрнай адзнакай сапраўднасці паэтычнага таленту. Толькі Паэт у хвіліны роспачы, вялікага душэўнага ўзрушэння кінецца шукаць ратунку ў Слове.

У цыкле Я. Янішчыц, які ахоплівае дзевяць пакутных дзён неймавернага хвалявання — ад самай адчайнай роспачы да з'яўлення надзеі, можна ўбачыць падсвядомую арыентацыю на прафесійныя мастацкія патрэбы. І ўсё ж любыя адзнакі літаратурнай «зробленасці» *адступаюць перад* сілай жывога пачуцця, якое запаўняе ўсю прастору лірычнага верша. Высокая мера душэўнай абжытасці слова вызначае мастацкую пераканаўчасць твора.

Яркім і трывожным агнём пачуццёвай і духоўнай спеласці гарыць пасярод зімы чалавечага недаверу, няверпасці і няпамяці каліна Яўгеніі Янішчыц. Не ўпершыню «гарушчасць» яе адбілася ў паэтычным слове. Як сімвал жаночай долі, вобраз каліны з народнай песні перайшоў у лірычныя вершы сучас*ных паэтаў*, дзе ён часта абазначае, на жаль, мастацкую вычарпанасць «тэмы». І ўсё ж, як вобраз эстэтычнага перажывання, як паэтычны знак чалавечай долі, ён здольны ўваскрасаць неўміручай красой:

**Калі святло ад недаверу згіне,**
**Няспешна прывітай яе спярша:**
**Я так цябе чакала, што ў каліне**
**Адбілася уся мая душа!**

Так і ў самой *паэзіі Яўгеніі* Янішчыц, як у гэтай каліне, адбіваецца ўся яе чалавечая душа.

У новай кнізе паэтэсы многа знаёмага: кола матываў і вобразаў, характар лірычнай гераіні, знаёмыя паэтычныя інтанацыі. Усё, чым жыла паэтэса *ў папярэдніх творах*, з новай сілай авалодвае яе паэтычнай уявай, не адпускае сэрца. Хоць, вядома ж, пара сталення накладвае адбітак на пачуцці, і замест ранейшага безаглядна-шчаслівага захаплення бязмежнасцю свету або пякучай горычы сутыкнення з яго жорсткасцю ўсё часцей з'яўляюцца больш спакойныя, ураўнаважаныя інтанацыі.

**Вось-вось сашчэміць інеем траву**
**І возера зашархне на балоце.**
**Удзячная, схіляю галаву**
**Перад жыццём у вечнай *пашаноце.***

Пашанотай да жыцця, якая ідзе ад народнага светаразумення, прасякнуты паэтычны свет Яўгеніі Янішчыц, на гэтай жа *аснове будуюцца яго ўзаемада*чыненні з багатым і шматлюдным народным жыццём.

Пры ўсёй зарыентаванасці духоўнага зместу творчасці паэтэсы на жыццё сэрца, на раскрыццё лірычнага «я», якое амаль цалкам зліваецца з воблікам лірычнай гераіні («Знаю паэта нялёгкую долю: Выплеснуць сэрца сваё напаказ»), гэты свет, аднак, не замыкаецца ў эгацэнтрычнай прасторы лірычнага выяўлення, а шукае выхаду за межы, акрэсленыя біяграфічнымі момантамі жыцця аўтара. І менавіта духоўная напоўненасць лірычнага перажывання, глыбіня лірызму спрыяюць таму, што з'явы знешняга свету, якія аб'ектыўна знаходзяцца па-за непасрэдным вопытам лірычнага «я», становяцца часткай духоўнай біяграфіі гераіні Я. Янішчыц, а зварот да самых жыццёвых асноў народнага лёсу ўсведамляецца як прагнасць пошукаў духоўных і маральных арыенціраў паэтэсы ў самой сабе, у інтымна-чалавечых стасунках. Такая накіраванасць творчага развіцця Я. Янішчыц найбольш выразна акрэслілася ў кнізе «Ясельда» і пацверджана затым наступнымі кнігамі «На беразе пляча», «Пара любові і жалю» і, нарэшце, «Каліна зімы».

Далучэнне да народнай душы вынікае ў паэтэсы з патрэбы праверыць на трываласць набыткі духоўнага вопыту свайго сучасніка, упэўніцца ў жыццёвасці тых духоўных пачаткаў, *сапраўдная вартасць якіх* часта спасцігаецца цаной маральных страт. Што самае каштоўнае ў гэтым — Я. Янішчыц умее **ўбачыць жывы чалавечы лёс,** раскрыць характар, а не «хадзячую» маральную ісціну. Лёс чалавека, як правіла, «сціснуты» да памераў невялікага верша, балады, паказаны ў дынаміцы сцэн, прытым ашчаднымі, але па-мастацку выразнымі сродкамі: характэрнай дэталлю, інтанацыяй, дыялогам. У паэтычнай галерэі народных тыпаў, створаных Я. Янішчыц, — справядлівыя і сціплыя «апосталы Павел і Нікан», «трывушчыя салдаткі» з іх затоеным у вачах болем, сівая бабуля — «заступніца спусцелага сяла», верныя ў пачуццях Сава і Марыя.

**Колькі часу лютая стыхія**
**Апякала вогненнай вайной...**
**Гарачыўся: «Кінь мяне, Марыя!**
**Як са мной — то лепш ужо адной».**

**А Марыя ветла ушчувала:**
**«Саўка, не іграй, нібы ў кіно».**
**Мыліцы паспешна падавала,**
**Адчыняла ў белы сад акно.**

Тут кожнаму герою даецца права сказаць за сябе, сказаць сваё слова, і верш нібы разыгрываецца па ролях, як драматычны твор (шкада, што «аўтарскае»: «ветла ушчувала» — гучыць дысанансам). Вельмі важна ў такім выпадку не збіцца з узятага тону — даверу да самога жыцця, не ўпасці ў ненатуральную расчуленасць, як гэта ўсё ж здараецца.

**Ой, вы ночы доўгія, глухія,**
**Думак неадольных асаўё!**
**Гой, ты доля — Сава і Марыя —**
**Прычашчэнне церпкае маё, —**

такія радкі ўспрымаюцца як неабавязковы давесак да слова, выверанага лёсам і здольнага пастаяць само за сябе.

Часам Я. Янішчыц як быццам эпаціруе рафінаваныя эстэтычныя густы, звяртаючыся да жыццёвага матэрыялу, цалкам пазбаўленага паэтычнасці. Гераіня аднаго з вершаў, «дурная Ганна», на любое пытанне адказвае неўпапад адно і тое ж: «Пытайцеся, пакуль жыву, я пакажу дарогу». І гэтае выслоўе, што рэфрэнам гучыць у невялікім вершы, дысаніруе са звыклай рэальнасцю жыцця — спачатку сваёй незразумеласцю ў вуснах хворага чалавека, а затым сваёй высветленай сутнасцю, якая звязана з трагедыяй вайны («у чыстым полі за сялом ёсць страшны роў глыбокі», «была сям'я, было сем «я» — усіх накрыла яма»). І ўжо сваім трагедыйным сэнсам настойліва звяртаецца да свядомасці кожнага «нармальнага» чалавека:

**«Пытайцеся, пакуль жыву,**
**Я пакажу дарогу».**

Якая гэта дарога і куды — вынікае з кантэксту твора без усякіх дадатковых каментарыяў, і сэнс гэтых вобразаў жахліва зразумелы для нас. Але верш не «пра вайну»—дакладней, не толькі пра яе злавесную памяць. Ён увесь прасякнуты спагадай да чалавека — і да гэтай жорстка пакрыўджанай лёсам жанчыны, і да кожнага, у каго ёсць **свая дарога.**

Увогуле ж сэнсавая глыбіня і шматзначнасць вобразаў раскрываюцца ў больш шырокім гуманістычным кантэксце. Балючая просьба-зварот: «Пытайцеся, пакуль жыву» — прадыктавана неабходнасцю чалавечага ўзаемаразумення, патрабаваннем чалавечнасці.

Абстрактнае паняцце чалавечнасці ў Я. Янішчыц, як правіла, канкрэтызуецца самім жыццём, лёсам чалавека, яно ўвогуле не існуе як паняцце ці як адцягненая ідэя, а сцвярджаецца *ўвагай да найчалавечнейшых* асноў жыцця. У гэтым — прынцыповая мастацкая пазіцыя паэтэсы. Яе прываблівацюць тыя жыццёвыя з'явы, якія нясуць большы зарад чалавечнасці, пабуджаюць да добрых пачуццяў. Даўно заўважана, што лягчэй любіць усё чалавецтва, чым канкрэтнага чалавека. У лірыцы ж паэтэсы на першым плане самыя рэальныя чалавечыя каштоўнасці; яна вучыць любіць чалавека, сцвярджаючы годнасць і самага пагарджанага (ціхай гарбункі, што церпіць *знявагу ад блізкіх*), і непрыкметна-простага («На хвартушэчку рукі — эпохі карані»). Але ў большай ступені чалавечы змест яе паэзіі выяўляецца праз духоўны свет лірычнай гераіні, бо ў ім сыходзяцца ўяўленні пра дабро і прыгажосць жыцця — універсальныя чалавечыя каштоўнасці, па-за якімі нельга жыць, інакш пачынаецца разбурэнне чалавека.

Самае істотнае ў характары лірычнай гераіні Я. Янішчыц — годнасць душы, якая выяўляецца ў рамантычным узвышэнні пачуццяў і драматычным супрацьстаянні ўсёй сферы нізкага, пачуццёва аморфнага і таму пачалавечы безаблічнага. Уся лю-

# На тым жа ўзроўні

**ПОЛАЦК. Гістарычны нарыс. 2-е выданне. На рускай мове. Мінск, «Навука і тэхніка», 1987.**

У АПОШНІ час усё больш людзей цікавіцца гісторыяй наогул і гісторыяй свайго краю асабліва. Гэта слушна адзначана першым сакратаром ЦК КПБ Я. Я. Сакаловым: «На шляхах дэмакратызацыі, публічнасці прыкметна абвастрылася цікавасць да мінулага, да гісторыі з боку шырокіх слаёў насельніцтва. Гэта *заканамерная* цікавасць. Наш сучаснік, асабліва малады, хоча глыбей зразумець, асэнсаваць, хто ён, адкуль родам і куды ідзе. Гэта патрабуе вельмі ўважлівых адносін да ўсяго, што фарміруе гістарычную свядомасць народа» («Звязда», 6 лістапада 1987 г.)

Таму кожнае выданне пра гісторыю гарадоў нашай рэспублікі выклікае вялікую цікавасць у чытачоў. У 1987 г. адзначалася 1125 гадоў з першага ўпамінання самага старажытнага горада Беларусі — Полацка. Гэтай тэме быў прысвечаны шэраг публікацый, у тым ліку артыкул М. Ермаловіча ў майскім нумары часопіса «Маладосць» — «Самы старажытны. Полацку 1125 гадоў».

Аператыўна адгукнуліся на гэты юбілей і выдалі другое выданне гістарычнага нарыса пра Полацк і гісторыкі. Аўтарамі кнігі пераважна з'яўляюцца вучоныя з Інстытута гісторыі АН БССР, у сваёй большасці — аўтары першага выдання, якое выйшла ў свет 25 гадоў таму, у 1962 годзе. Якія задачы паставілі перад сабой аўтары новай кнігі і як яны іх вырашылі? Пра гэта сказана ў анатацыі — на вялікім канкрэтна-гістарычным матэрыяле асвятліць сацыяльна-эканамічнае і культурнае развіццё Полацка.

**Кніга пра гісторыю Полацка з'яўляецца паслядоўным выкладаннем гісторыі горада. У ёй змешчана значная колькасць ілюстрацый, шмат цікавых фактаў, многа лічбаў. Большая частка кнігі прысвечана падзеям савецкага перыяду ў гісторыі горада. І гэта абгрунтавана, бо старажытны беларускі горад Полацк пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыіператварыўся ў новы сацыялістычны горад, што добра паказана ў кнізе (раздзелы, якія напісаны полацкім гісторыкам Н. А. Манісам).**

У цэлым кніга, як і ў першым выданні, напісана разнародна. Адны аўтары, асабліва ў першых раздзелах, паказваюць сваю глыбокую навуковую эрудыцыю і, як і 25 гадоў таму, прапанавалі чытачу тыя ж самыя або крыху перапрацаваныя, ізаляваныя адзін ад другога тэксты, якія вельмі нагадваюць акадэмічныя навуковыя працы сацыяльна-эканамічнага накірунку, другія (асабліва гэта датычыць апошніх раздзелаў) напісалі тэксты, якія мала чым адрозніваюцца ад звычайных газетных артыкулаў са справаздачамі гарвыканкома або яго аддзелаў. У выніку кніга не стала ні навуковым, ні навукова-папулярным выданнем. Складваецца ўражанне, што аўтары пісалі не столькі для чытачоў, колькі для сябе.

У кнізе мала ўлічаны або зусім не ўлічаны апошнія абагульняючыя працы савецкіх гісторыкаў. У тэксце, напрыклад, практычна ігнаруюцца артыкулы па гісторыі Беларусі ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Ёсць адступленні на пазіцыі 30—40-х гадоў ад тэксту «Гісторыі Беларускай ССР». Не ўлічаны Гісторыя СССР са старажытных часоў да нашых дзён (том 2), Гісторыя Літоўскай ССР, кніга В. Ц. Пашуты, Б. Н. Флоры, А. Л. Харашкевіч пра старажытнарускую спадчыну і гістарычны лёс усходняга славянства, цэлы шэраг іншых прац, у тым ліку польскіх аўтараў. Некуды падзеўся перыяд з канца XIV да пачатку XVI ст. уключна, хоць другі раздзел кнігі і названы «Полацк у XIV — сярэдзіне XVIII ст.» Затое некалькі старонак з гэтага перыяду чамусьці, як і ў першым выданні, змешчаны ў раздзеле «Грамадска-палітычнае жыццё. Барацьба супраць агрэсіі нямецкіх крыжакоў» (раней было «супраць нямецкай агрэсіі»). Знаходжанне Беларусі ў складзе Вялікага княства Літоўскага з канца XIV ст. разглядаецца як падпарадкаванне польска-літоўскім феадалам, аўтары пішуць, што «гараджане скардзяцца каралю Польшчы», хаця Беларусь і Полацк у склад Польшчы ніколі не ўваходзілі. Пасля падзей XV ст. аўтары чамусьці вяртаюцца ў XIV ст. У другім раздзеле кнігі аўтар, З. Ю. Капыскі, «не заўважыў» такую падзею, як Люблінская унія 1569 г., зыходзячы з таго, што Полацк ужо даўно быў у складзе Польшчы. Гэтая даўняя канцэпцыя цалкам узята з першага выдання кнігі.

Затое вельмі старанна пералічваецца колькасць рамеснікаў, купцоў, гандляроў і інш. У гісторыкаў, якія займаюцца феадальным перыядам у гісторыі Беларусі, існуе, на жаль, звычка хавацца ад вострых палітычных пытанняў за гісторыка-эканамічнымі. Няясна і невыразна разглядаюцца рэлігійныя пытанні: аўтары гавораць, згодна са старой схемай, якая яшчэ ідзе ад Мураўёва-вешальніка і рускай дваранскай гістарыяграфіі, пра каталіцкую агрэсію, а аб прывілеяваным становішчы *праваслаўнай царквы* нічога не гаворыцца, ці пра той жа «Світак Яраслава», зацверджаны ў 1503 г. вялікім князем Аляксандрам Казіміравічам для полацкага архіепіскапа Лукі, з імунітэтнымі правамі, правам духоўнага суда над насельніцтвам па шматлікіх грамадзянскіх справах, і правам на штрафы. Залішне доўга і старанна апісваюцца рэлігійныя супярэчнасці *паміж* каталікамі і праваслаўнымі ў стылі дарэвалюцыйных праваслаўных царкоўных гісторыкаў. Перабольшана колькасць насельніцтва Полацка ў 1563 г., хаця аўтар сам прызнае, што ў горадзе сабралася насельніцтва «ўсяго Полацкага павета». Перабольшана роля каталіцызму ў Полацку ў канцы XVI ст. Сапраўды, паводле звестак Полацкай рэвізіі 1552 г. сярод «шляхты полацкай», якая мела маёнткі ў Полацкім ваяводстве, налічвалася 144 праваслаўныя і 10 католікаў. Дробныя феадалы былі суцэльна праваслаўнымі. Нават у канцы XVI ст., паводле звестак папскага прадстаўніка А. Пасевіна, які праязджаў праз Полацк у Маскву, у Полацку быў адзіны касцёл з адным ксяндзом, які якраз памёр у момант прыезду Пасевіна.

**У раздзеле па гісторыі Полацка з сярэдзіны XVII да першай чвэрці XVIII ст. (аўтар А. М. Карпачоў) няма палітычнай гісторыі, у тым ліку нічога няма пра падзеі Паўночнай вайны. Няма і раздзела пра гісторыю Полацка ў XVIII ст. (як і ў першым выданні), толькі нагадваецца вайна 1654 — 1667 гг. Пры гэтым цалкам ігнаруецца праца А. М. Мальцава «Расія і Беларусь у сярэдзіне XVII ст.» (М., 1974), хіба таму, што змест яе не адпавядае даўняй канцэпцыі аўтараў пра «вызваленне» Беларусі ад «ка-**

*боўная лірыка паэтэсы* — і найперш яна — пазначана унутранай годнасцю, здольнасцю чалавека да глыбокіх, самаахвярных пачуццяў, гатоўнасцю несці і радасць і цяжар адказнасці за самага блізкага. Таму банальная на першы погляд сітуацыя неразумення, адчужанасці, разрыву паміж людзьмі набывае значэнне глабальных духоўных катаклізмаў: парушаецца ўвесь мікракосмас душы, знікае ўсведамленне каштоўнасці чалавечага жыцця. Але і ў гэтай сітуацыі выпрабавання на чалавечнасць лірычная гераіня Яўгеніі Янішчыц не дапускае магчымасці паступацца самым чалавечым у сабе ці дакараць, абражаць таго, хто не ўзняўся да вышыні яе запатрабаванняў.

Аднак жа вастрыня адчуванняў не знімаецца.

**Я аціхаю,**
**быццам не мая**
**Душа ўва мне, а спрэс адчай і мука.**
**Ты побач, тут. І ад таго ўдвая**
**Мне балючэй аклятая разлука.**

У «Каліне зімы» матывы кахання не дамінуюць у змесце кнігі, як у папярэдніх зборніках — вопыт душы ахоплівае больш шырокае кола з'яў. Але некалькі вершаў («Нясуджаны, я так скажу аднойчы...», «Як доўга дождж ільє, а я не чую...», «Радасць», «Застаюся каханай!» і некаторыя іншыя) добра дапаўняюць усю сучасную любоўную лірыку. Сярод вартасцей гэтых твораў трэба адзначыць нязмушанасць, праўду пачуцця, яго зямную, прыродна-эмацыянальную аснову, узведзеную ў духоўную велічыню.

Жывы чалавечы клопат кіруе паэтычнай музай Я. Янішчыц, надае яе паэзіі па-зямному прывабныя, пазнавальныя рысы. Яе «Зорная паэма» — наскрозь зямная, нават падкрэслена зямная ўсім сваім зместам — турботамі нашага дня, — настроем, трывогай за будучыню нашай зямлі. Гэта цэльны лірыка-публіцыстычны маналог, у якім зліліся ў адно інтанацыі многіх вершаў паэтэсы, вядомых па папярэдніх кнігах. Але не менш выразна адчуваюцца ў творы перамены ў грамадскай свядомасці, што адбываюцца ў апошні час. Лаканічна і змястоўна гэтае адчуванне часу выражана ў словах: «Людзі счакаліся Гаспадара!», яно паглыбляецца мастацкім аналізам сацыяльных і духоўных з'яў, да асэнсавання якіх усё больш звяртаецца сучасная публіцыстычная паэзія.

Я. Янішчыц часта спасылаецца на народную ацэнку падзей і з'яў, на сацыяльны і мастацкі аўтарытэт народнага вопыту. Па-мастацку пераканаўча гучыць у паэме занепакоенасць лёсам працаўніцы-зямлі і здабытага хлеба, лёсам усіх заваёў нашага жыцця:

**Мала цяпер хаданоў у народ,**
**Болей цяпер хадуноў у**
**начальства.**

Паэме Я. Янішчыц уласціва сацыяльная спеласць і вастрыня паэтычнай думкі. Сучасная рэчаіснасць раскрываецца ў ёй у выразных мастацкіх дэталях, якія належаць найперш да сферы працоўна-сялянскага побыту і духоўнай культуры сучаснай вёскі, а таксама ў характэрных прыкметах часу больш універсальнага значэння: у адчуванні ўсечалавечага супрацьстаяння пагрозам знішчэння жыцця на зямлі, у неабходнасці ўзвышэння ў чалавеку яго гуманістычнай духоўнай сутнасці.

Публіцыстычнасць як эстэтычная якасць заўсёды заключае ў сабе тэндэнцыю — скрытую ці яўную — да рыторыкі, да абстрактнай усеагульнасці зместу і пафасу твора. Пра «Зорную паэму» Я. Янішчыц можна сказаць, што публіцыстычнасць у ёй ураўнаважваецца моцным лірызмам, які «ачалавечвае», надае прывабную непаўторнасць публіцыстычнай ідэі.

Увогуле ж паэтычная публіцыстыка — гэта не галоўная сфера выяўлення паэтычнага таленту Я. Янішчыц, у якім яўна дамінуе лірычны пачатак з перавагай эмацыянальнай экспрэсіі. Яшчэ ў большай ступені не ўласціва ёй філасофская медытацыя. Нельга аднесці да творчых удач паэтэсы, напрыклад, верш «Не варта», цалкам пабудаваны на пераліку розных сентэнцый. У ім, дарэчы, акрамя ардынарнасці думкі, выказана і зусім незразумелае пажаданне чалавеку... не разлучацца з бядой:

**Не трэба пеўняў разліваць**
**вадою —**
**Праз пяць хвілін угаманяцца**
**страсці.**
**Не варта рваць адносіны з**
**бядою,**
**Бо непадзельна з ёю ходзіць**
**шчасце.**

Ёсць у кнізе Я. Янішчыц і вершы-канстатацыі якіх-небудзь фактаў, падзей, не падмацаваныя глыбокім перажываннем або арыгінальнай думкай («Блакітная Лагуна», «На хатынскай зямлі з замежнымі турыстамі», «Мтацмінда), ёсць паўтарэнні адных і тых жа вобразаў, сэнсавыя і моўныя недакладнасці: «**Сеўшыя** ў вышынныя дамы», «...франтавік — вайны сумленне — **Бязбожна** ў спіну вам глядзіць», «Аціхнуць спрэчак трэскі», «І курс немедыцынскае **лацінкі** «Per aspera» — будзілі хворы слых» (маецца на ўвазе латынь, лацінская мова, а не лацінка, г. зн. лацінскі шрыфт).

Можна назваць таксама асобныя выдаткі выпрацаванага стылю. У творчасці Я. Янішчыц свежа і цікава інтэрпрэтуецца вобразнасць народнай песні, лірычная плынь яе паэзіі вольна ўбірае ў сябе народна-песенныя інтанацыі. Але дзе-нідзе паэтэса збіваецца на знешняе перайманне фальклорнага стылю, фактычна імітуючы песенную эмацыянальнасць (а тое, што натуральна для песні, якая пяецца, не заўсёды прымальна для лірычнага верша). Маецца на ўвазе перанасычанасць эмацыянальнымі зваротамі, празмернасць выклічнікаў: «Ой, пры каліне чырванашчокай Ды пры даліне зялёнай — сяло», «Ой бы вас ды ў саначкі былінныя...», «Ой жа зімой закіпае каліна», «Ой, ды іншае долі не трэба».

У той жа час у «Каліне зімы» прасочваецца тэндэнцыя да павелічэння пластычнасці, зрокавай і сэнсавай дакладнасці вобраза ў параўнанні з пераважна слыхавой, музычнай асацыятыўнасцю ў першых паэтычных зборніках.

Выяўленчыя магчымасці паэзіі Я. Янішчыц узбагачае народная моўная стыхія, якую добра адчувае паэтэса. Можна было б не надаваць асаблівага значэння гэтаму моманту, калі б не разуменне аб'ектыўных цяжкасцей, якія ўзнікаюць перад паэтам, мова дзяцінства якога (спецыфічная палеская гаворка) досыць істотна адрозніваецца ад тых гаворак, што ляглі ў аснову літаратурнай мовы. Яўгеніі Янішчыц, мне здаецца, удалося арганічна паяднаць сваю натуральную мову з мовай літаратурнай традыцыі.

А гэта яшчэ адно сведчанне таго, як чуйна адгукаецца яе душа на голас ліры.

**Люба ТАРАСЮК.**

---

**таліцкай агрэсіі» і г. д. Увесь гэты раздзел прысвечаны эканамічнаму развіццю горада. З яго не відаць, які быў этнічны і рэлігійны склад насельніцтва Полацка, колькі ў горадзе было касцёлаў, уніяцкіх і праваслаўных цэркваў, яўрэйскіх малітоўных дамоў. Чамусьці ў раздзелах пра XVI—XVIII стст. зусім не згадваюцца яўрэі. Яшчэ А. Сапуноў адзначыў, спасылаючыся на вядомыя дакументы, што Іван Грозны ў 1563 г. пасля заняцця Полацка загадаў утапіць у Заходняй Дзвіне 400 яўрэйскіх жыхароў горада. З. Ю. Капыльскі пра гэта ведае, але сарамліва замоўчвае гэты факт. У XVIII ст. колькасць яўрэяў у Полацку значна вырасла, але пра гэта не гаворыцца. Што датычыцца беларускага насельніцтва, то аўтары раздзелаў зыходзяць з пункту гледжання, што беларусы — гэта праваслаўныя, ігнаруючы той факт, што да Кастрычніцкай рэвалюцыі 75 працэнтаў беларусаў былі праваслаўнымі, а 25 працэнтаў — каталікамі, а да скасавання царызмам у 1839 г. уніяцкай царквы праваслаўныя складалі не болей як 6,5 працэнта насельніцтва Беларусі, а уніяты пераважную большасць насельніцтва. Праўда, царскія ўлады і праваслаўная царква лічылі уніятаў «*гвалтоўна пераведзенымі* ў каталіцтва» і таму самі ў 1839 г. гвалтоўна ліквідавалі уніяцкую царкву (пра што пісаў А. І. Герцэн). Гэтыя погляды ў значнай меры паўплывалі на аўтараў кнігі.**

Знешне кніга аформлена добра і мае паказальнік прозвішчаў і спіс літаратуры. Але спіс літаратуры складзены адвольна: зусім няма літаратуры на польскай мове, нават і тых гісторыкаў, якія нарадзіліся і жылі ў Беларусі. (Гэта, заўважым, агульны недахоп шматлікіх прац па гісторыі Беларусі). У параўнанні з першым выданнем гістарычнага нарыса па гісторыі Полацка аўтары і рэдкалегія кнігі наўрад ці пайшлі далей. Кампаноўка і падача тэксту засталіся тымі ж. Навуковы ўзровень выдання фактычна не змяніўся. Агульны падыход да гісторыі Полацка (нават да 1772 г., калі ён быў далучаны да Расіі) — гэта гісторыя горада з пункту гледжання дарэвалюцыйнай гістарыяграфіі, якая апраўдвала ўсе або амаль усе дзеянні цароў, пачынаючы з Івана Грознага, праваслаўе і барацьбу за яго лічыла прагрэсіўнымі, а ўсё, звязанае з каталіцызмам і царкоўнай уніяй, — рэакцыйным, антынародным і антынацыянальным.

Увогуле кніга перанасычана сухімі эканамічнымі або сацыяльна-эканамічнымі тэкстамі, якія з цяжкасцю будуць успрымацца шырокім чытачом, і ўяўляе больш «параднае» выданне, чым папулярна-навуковую кнігу. Так, напрыклад, нават самы старажытны перыяд у гісторыі горада, які мог быць узбагачаны красамоўным летапісным матэрыялам, у кнізе ператварыўся ў сухую акадэмічную лекцыю. У гэтым сэнсе куды лепш напісаны згаданы ўжо артыкул М. Ермаловіча. дзе аўтар выкарыстаў матэрыялы летапісаў больш плённа. Гэта трэба адзначыць яшчэ і таму, што М. Ермаловіч падкрэсліў тэндэнцыю да самастойнасці Полацкай зямлі, якая праявілася раней, чым у іншых землях Старажытнай Русі пры пераходзе да этапу феадальнай раздробленасці; дарэчы, гэта адзначана ў «Истории СССР с древнейших времен до наших дней» (т. 2, М., 1966). Здзіўляе, што гэты артыкул быў сустрэты, як кажуць, «у штыкі». Ён цікавы і не мае тых заганных рысаў, якія яму няслушна прыпісалі.

Якраз на гэтыя прышыбееўскія воклічы добра адказвае верш Ніла Гілевіча «Іменем навукі»:

**Што ты пішаш, баламутнік,**
**Аб гісторыі далёкай! —**
**Закрычаў у злосці лютай**
**Пані Догмы верны лёкай.**

Гаворачы пра гісторыю Полацка за апошнія 70 гадоў, трэба прызнаць, што аўтары і навуковыя рэдактары выдання не пазбеглі агульнай для нашых гісторыкаў тэндэнцый, якая трывала захоўваецца нават і ў апошнія гады, — старанна выключаць са сваіх прац усялякія згадкі пра драматычныя і нават трагічныя сітуацыі ў гісторыі нашага краю, нашай Радзімы. У кнізе нічога не гаворыцца пра масавыя рэпрэсіі перыяду культу асобы, мала або зусім не гаворыцца пра нацыянальную палітыку.

У сувязі з гэтым хочацца нагадаць словы члена Палітбюро, сакратара ЦК КПСС А. М. Якаўлева: «Асэнсоўваць гісторыю, загадзя адмовіўшыся ад сустрэчы з «нязручнымі» фактамі, значыла б ухіляцца ад навуковага падыходу да гістарычнага вопыту, замест глыбокага пазнання і засваення ўрокаў мінулага выбраць настальгічныя фантазіі, запраграміраваць суб'ектывізм» («Правда», 4 лістапада 1987 г.).

Задача гісторыкаў рэспублікі не на словах, а на справе пазбавіцца аджыўшых і дагматычных поглядаў, інерцыі, штодзённа, з сапраўды партыйных пазіцый весці барацьбу за перабудову ў гістарычнай навуцы, перабудову ў поўным аб'ёме, як таго патрабуе партыя.

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ.**

---

## НАШ КАЛЯНДАР

# БЫЛІ ПАЭТАМІ Ў ДУШЫ

Час, сапраўды, бяжыць імкліва. Што гэта так, гавораць два здымкі, якія паспелі стаць гісторыяй. Яны збераглі абліччы Алеся Бачылы і Міколы Ткачова, якім у гэтыя зімова-вясновыя дні споўнілася б па семдзесят. Алесю Мікалаевічу — 2 сакавіка, Міколу Гаўрылавічу — 8-га. Аднак не толькі па гэтай прычыне здымкі гэтыя пастаўлены тут поруч. Ёсць яшчэ адна акалічнасць, якая дазваляе А. Бачылу і М. Ткачову згадваць разам. Абодва яны былі паэтамі. Паэт А. Бачыла і празаік М. Ткачоў.

Ёсць на зямлі паэзія асобага складу, якая выяўляецца ў здольнасці чалавека адкрыта-даверлівымі вачыма глядзець на свет і людзей; заўсёды і ва ўсім, нягледзячы на нягоды, бачыць у жыцці толькі светлае, толькі паэтычнае, умеючы яму па-сапраўднаму радавацца і перадаваць радасць гэтую іншым. Талентам такім якраз і валодаў М. Ткачоў, якога яго даўні і лепшы сябар Кастусь Кірэенка ва ўспамінах трапна назваў «віцязем дабрыні».

Паэзія ж А. Бачылы — гэта больш за дзесятак зборнікаў вершаў, лібрэта опер «Яснае світанне», «Калючая ружа», «Калі ападае лісце», «Зорка Венера» і аперэты «Паўлінка». Нават людзі, далёкія ад літаратуры, не ведаючы таго, штодня сустракаюцца з паэзіяй А. Бачылы —з яго вершам «Радзіма мая дарагая», пакладзеным на музыку У. Алоўнікавым: першыя акорды песні даўно сталі пазыўнымі рэспублiканскага радыё. Паэзія А. Бачылы — гэта праяўленне сумленнасці і прынцыповасці аўтара ў выказванні думак, пачуццяў лірычнага героя, у перадачы яго жыццёвай пазіцыі. У гэтым мы яшчэ раз пераканаліся, калі летась на старонках «Полымя» пазнаёміліся з яго «Паэмай тугі». «...Нельга ж далеч ясна бачыць, з вачэй не зняўшы слепаты...» — гэта пісалася яшчэ да перабудовы, да рэвалюцыйных змен у жыцці грамадства.

Нельга не згадаць і верш А. Бачылы «Размова з сумленнем», напісаны яшчэ ў 1966 годзе: «...выжыў я. І стаў я нецярпімы да ўсіх, хто боль гатовы прычыніць дзіцяці, птушцы, клёніку, Радзіме, людскому сэрцу, нават цішыні». Гэта нецярпімасць «да ўсіх, хто боль гатовы прычыніць...», і загучала ў паэме на поўную сілу.

Нецярплівым да подласці, двурушнасці, абачлівасці А. Бачыла быў і ў паўсядзённасці. Гэта ведаюць тыя, хто працаваў поруч з ім у «Настаўніцкай газеце», «Літаратуры і мастацтве», часопісе «Полымя», выдавецтве «Мастацкая літаратура»...

Сумленнасць, прынцыповасць М. Ткачова таксама адчулі многія — Мікола Гаўрылавіч быў адказным сакратаром часопіса «Полымя», галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва», сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» з першых дзён яго існавання, а, значыць, адным з яго арганізатараў.

...Два здымкі, што паспелі стаць гісторыяй. На іх з таварышамі па пяру — А. Бачыла і М. Ткачоў. Угледаешся ў знаёмыя твары і бачыш пісьменнікаў, быццам жывых. Шчырых і душэўных людзей, самабытных творцаў, прынцыповых камуністаў.

**А. ВІШНЕЎСКІ.**

У рэдакцыі часопіса «Полымя». Злева направа — галоўны рэдактар П. КАВАЛЁЎ, намеснік галоўнага рэдактара А. РУСЕЦКІ і адказны сакратар А. БАЧЫЛА (1971 г.).

Дзелавая размова. М. ТКАЧОЎ і Р. НЯХАЙ (1974 г.).
Фота Ул. КРУКА.

●

Часта пытаюцца:
як вершы пішуць?
А як жыццё жывуць.
Вось Тэатр Лоркі:
правым вокам ён плача слязу радасці,
левым вокам — слязу гора,
і, зліваючыся,
яны нараджаюць вечную пакутніцу —
паэзію.

## Рай

Самыя вясёлыя і галасістыя салаўі — на вясковых могілках. Напэўна таму, што і днююць, і начуюць не ў гнёздах, а ў душах маіх спрахлых дзядоў. Яны ж, як сведчыць тутэйшы народ, былі самымі жыццярадаснымі і жартаўлівымі людзьмі на Палессі.

І бярозы тут самыя белыя, такія белыя, што ўначы здаюцца фасфарытавымі маравамі. Дзяды і нават багі маіх дзядоў, як тварамі, так і думамі, былі такімі ж светлымі.

І толькі жвір на вясковых могілках калючы і цяжкі, калі прыходзіцца кідаць свае тры жмені наўслед нябожчыку, як самыя важныя словы, якія не паспеў сказаць яму яшчэ ўчора.

Жыве адзінокая бабулька каля самых могілак. Яна іх называе не інакш як раем і ўсё часцей і часцей думае пра яго. «Чаму?»—неяк запытаўся ў яе. «Таму што ў пекле ўжо нажылася».

●

Я дарэшты ў тваёй уладзе
што хочаш рабі з маім брыдкім целам
і распуснай душой —
хочаш любі
а хочаш забі

я сцярплю
таму што мая пакутная любоў
мацней за самы жахлівы боль

не страшна — калі вырываюць пазногці
страшна — калі д'яблавымі пазногцямі
па душы

няхай нават бруднай
але ж яна не вінаватая
вінаватае цела

я дарэшты ў тваёй уладзе
ды толькі аб адным прашу цябе
НЕ! ЗАКЛІНАЮ ЦЯБЕ: лепш забі
здзекліва
высакародна — неістотна
толькі не здрадзь
бо тады я ніколі не вярнуся ў гэты свет
а я ж так яго люблю...

## Пацеркі

Гэныя драўляныя пацеркі з шыі маёй бабулі на самай справе бурштынавыя. Штоночы яны падкочваюцца да маёй галавы і самотным голасам пытаюцца пра сваю гаспадыню.

Адчуваю, як мяне пранізваюць бурштынавыя промні, і я, зачараваны, узіраюся ў іх мэту: а там немаўлячы беларусік у прыполе сівой бабулі гуляецца бурштынавымі маніскамі.
— А у перапёлкі галоўка баліць...— спявае яму бабуля.
— А у перапёлкі ручкі баляць...
Хлапчанё засынае і на ўсё жыццё задумваецца пра гаротніцу-перапёлку.

...Гэныя драўляныя пацеркі на самай справе бурштынавыя.
Іх згубіла перапёлка, калі нагнулася расы папіць...

## Пра што шэпчуцца мурашы

Шэпчуцца ў траве мурашы.
Ані ветру, ані грому,
і толькі расінкі бліскаюць,
як маланкі,
а з параненай травы сочыцца
зялёная кроў
на рудых мурашоў, на рудую глебу...
Усё зелянее і... бянтэжыцца
і толькі цвыркочуць самазадаволеныя
конікі:
ну што за дзіўны свет?
І калі ён паразумнее і ўрэшце зразумее,
што самая высакародная кроў —
зялёная?
Але ўсё адно ў зялёнай траве
шэпчуцца рудыя мурашы
пра тое, што гэтая трава
і гэтыя агідныя зялёныя конікі
жывяцца рудой глебай.

## Яблыня

На яе галінках растуць яблыкі, на карэннях — *камяні*.
Нават у самыя лютыя зімы, калі ледзь-ледзь б'ецца сэрца, каб не даць дарэшты змерзціся крыві, камяні выцягваюць з яе апошнія жылы. Хтосьці іншы даўно сканаў бы, нават не дачакаўшы сваёй першай пладаноснасці, а яна ў незямных пакутах зноў і зноў выходзіць з забыцця зімовай анестэзіі, і кожнага разу чакае сваёй вясны, быццам апошняй радасці-спадзяванкі.

Але балючай за ўсё зямлі, як той маці, за самае пакутнае дзіцятка.

Кастусь КІРЭЕНКА

# Размова з Андрэем Макаёнкам

РЭПАРТАЖ СЭРЦА

Нейкі час, аглушаны той нібыта «адзіна правільнай» інфармацыяй, якую ўсцяж і ўсюды распаўсюджвалі пра цябе твае самазваныя «апекуны», — я настолькі быў збянтэжаны, што нават не дапускаў і думкі дакрануцца да бясконца светлай памяці, якая засталася пра цябе ў маёй душы. Але не, з кожным пачутым словам я ўсё больш упэўніваўся, што не магу далей трываць, што, не сказаўшы праўды, якую пра цябе ведаю, — не змагу далей спакойна жыць...

Дык вось... Пакуль цябе палажылі на саркафаг на сцэне ў Доме літаратара, прайшло некалькі дзён. І ўвесь гэты час ні на момант не змаўкалі «званы» нястомнай «молвы», з якое кожны мінчанін даведаўся пра цябе такое, чаго б нават і ў сне не сасніў... Дзе падзеўся таленавіты і горды, з арлінай хваткай далёка бачыць наперад, вясёлы, таварыскі Андрэй Макаёнак? Дзе падзелася яго слава, яго папулярнасць як драматурга, якому надзіва падуладна было майстэрства знаходзіць у жыцці і ярка абмалёўваць у п'есах, па адным мудрым вызначэнні, — «тыповыя характары ў тыповых абставінах»? Дзе падзелася твая, можна сказаць, спартанская стрыманасць і сціпласць у паводзінах, апантаная працавітасць, тваё амаль рыцарскае абыходжанне з жанчынамі, твая, трэба адзначыць, выключная сарамлівасць, якая доўгі час не давала табе вырашыць пытанне пра сяброўку жыцця?

Замест светлага і магутнага Макаёнка некаторыя так званыя «прыхільнікі» і «зычліўцы» прыклалі намаганні стварыць вобраз бязвольнага, бесхарактарнага чалавека, прагнага да грошай, ахвотніка павалачыцца за бабскімі спадніцамі, аматара выпівак... Эх, Андрэй, Андрэй! Нашто ты пакінуў пяро? Нашто паддаўся пачварнасці смерці, чаму не знайшоў у сабе моцы застацца ў баявым творчым страі? — хацелася крыкнуць, стоячы ў ганаровым каравуле каля тваёй труны. Ты павінен быў жыць, каб вывесці на чыстую ваду разам з іншымі прайдзісветамі і ўсіх дамарошчаных прарокаў, якіх нават і смерць блізкіх таварышаў ніколі не спыняла ў бессаромным імкненні папазіраваць перад людзьмі.

Я стаяў у ганаровым каравуле ўсяго некалькі хвілін, але і іх хапіла, каб перад вачыма праляцелі многія гады нашых сустрэч, — узвілося ў сэрцы ўсё дарагое і незабыўнае, чаго нельга ўжо вярнуць, але што і сёння будзіць у душы прагу чагосьці светлага і шчымлівага, ціха-лірычнага і разам з тым мужнага і патрабавальнага да ўсяго і да ўсіх, і ў першую чаргу — да самога сябе.

Не, я не ведаў цябе, як атлёта, які ўмеў адмыслова хвацка здабываць праязныя чыгуначныя білеты. Я не ведаў цябе, як прабіўнога лаўкача, які меў здольнасць дасягаць высокіх сфераў і выбіваць для каго-небудзь птушынае малако, — ты ніколі нічога нідзе не «выбіваў», мы з табою і так былі заўсёды ўсім задаволены. Але затое ад першай нашай сустрэчы я бачыў у табе глыбокага паэта, які так імпанаваў мне сваёй няўрымслівай верай у цнатлівасць чалавечай душы, сваім праніклівa-задумным углядannем у сутнасць нават самых непрыкметных жыццёвых з'яў. Ты памятаеш, як мы пазнаёміліся, як спаткаліся ўпершыню? Быў цёплы навальнічны дзень, толькі што нахапілася з перунамі залева, і мы хаваліся з табою ад яе ў крытай альтанцы пры ўваходзе ў Саюз пісьменнікаў, не паспеўшы ўляцець у само памяшканне. Цёплая, парная залева як раптоўна ўсхадзілася грымотамі, так раптоўна і сціхла; перуны адышлі некуды на ўскрай горада, а тут, па-над намі, час ад часу шырока ўспыхвалі паясы маўклівых ціхіх зарніц. І нечакана ты пачаў дэкламаваць:

**...Я замерла, не понимая,
В какой я горнице, Крапива,
Шумя, бежала под окном.
Зарница яркая, немая
Мне говорила торопливо
Все об одном, все об одном.
Впервые нынче мы не лгали, —
Дрожа от радости, впервые
Сняла я тяжкое кольцо...**

Рэдка хто нават з тых, хто піша вершы, ведае, чые гэта радкі. А ты чытаў іх на памяць, ты, як і я, любіў дарагога майму сэрцу чарадзея слова, і ўжо гэта адно абумовіла маю сімпатыю да цябе. Хто-ніхто лічыць, што як празаік Іван Бунін мацнейшы, спрачацца не буду, чытаць яго прозу мне таксама прыемна, але найбольшае зачараванне заўсёды прыносіла бунінская паэзія. І, значыць, ты быў такі ж, як і я, калі з усяго неабсяжнага акіяна паэтычнага хараства выбраў якраз тое, што неаднойчы так соладка кранала мне душу. Мусіць, ты заўважыў маю радасць, бо, паклаўшы руку на плячо, спытаў:

— Любіш? І твой паэт?

— І мой, братачка! Люблю! — горача адказаў я, і ў адкрытым, шчырым адказе было маё ўсхваляванае захапленне і любімым паэтам, і табою, і я ўжо адчуваў усім сэрцам, што з гэтай хвіліны нішто не перашкодзіць мне гарнуцца да цябе як да блізкага па духу чалавека.

Даўно гэта было, ты тады яшчэ не быў тым Макаёнкам, творы якога з такой нецярплівасцю чакалі ўсе апантаныя тэатралы краіны, аматары баявой, атакуючай драматургіі, усе сумленныя людзі, якія не ўмеюць раўнадушна, абыякава глядзець на свет, на тое, што ў ім робіцца. Тады ты быў яшчэ толькі аўтарам некалькіх аднаактовак ды п'есы «На досвітку», — але чуйнасцю душы сваёй, высокай духоўнай чысцінёю, сваім бескампрамісным выяўленнем сімпатый і антыпатый Чалавека ты і тады ўжо быў Драматургам Макаёнкам. І гэта я адразу адчуў пад той бліскавічнай чэрвеньскай залевай, якая нібыта для таго і пранеслася над горадам, каб мы пазнаёміліся і назаўсёды сталі сябрамі.

але такога салодкага, мусіць, смачнейшага за ўсё на свеце, бядняцкага хлеба... Цяперашнім дагледжаным, забяспечаным, магчыма, нават распешчаным студэнтам гэта здасца дзівосаю і неверагоднасцю — дабірацца пехатою да бацькоўскай хаты на канікулы, ды яшчэ столькі дзесяткаў кіламетраў, ды яшчэ без капейкі ў кішэні, ды без добрага харчовага прыпасу з сабою, — хто паверыць, што такое было?.. А яно было, — былі даваенныя, пустынныя або з зусім рэдкім машынным гудам дарогі; была мізэрная стыпендыя, якой не хапала нават на самае неабходнае, што трэба чалавеку; была ў бацькоўскай хаце нясканчальная бядота маламоцнай сялянскай сям'і...

Але даруй, Андрэй, за адхіленне; параўналася мінулае з сённяшнім проста так, да слова прыдалося... А пра што абавязкова не павінен забыцца сказаць, што адразу, з першай той сустрэчы моцна зблізіла мяне з табою, — дык гэта пра любоў, нават пра пяшчоту да мясцін, дзе люлялі маці ў калысках, да землякоў, з якімі пачыналі жыццёвыя шляхі. Пра гэта ты гаварыў з асаблівай цеплынёю, і было яно мне хвалююча і блізка, бо я сам быў такі ж, — заўсёды мяне цягнула да сябе зямля маленства і юнацтва, зямля дарагіх бацькоў.



Генадзь АЎСЯННІКАЎ і Андрэй МАКАЕНАК. 1973 год.

Фота Ул. КРУКА.

Захопленыя сардэчнай радасцю ад усведамлення блізкасці і роднасці пачуццяў, мы не маглі адразу расстацца. Слова за словам. І тут высветлілася, што ты быў маім не толькі земляком, але амаль блізкім суседам: колькі разоў праязджаў і праходзіў я міма тваіх рагачоўскіх Журавіч, кіруючыся па Варшаўскаму шляху ў свой Гайшын Слаўгарадскага раёна! Калі быў у Гомелі студэнтам аўтамабільнага тэхнікума, а пасля вучыўся там жа ў педінстытуце і зберажэнняў студэнцкіх хапала толькі на чыгуначны білет ад Гомеля да Рагачова, — неаднойчы з закніжанай торбачкай за плячыма ішоў я пехатою ад Рагачова да Гайшына — восемдзесят пяць вёрст. За адзін дзень мінаў якраз палову дарогі і прасіўся нанач недзе тут, у вёсцы каля Журавіч... Ці то ў вёсцы Завідаўцы ці ў Хрыстаполлі добрыя цёткі давалі прытулак згаладнеламу і схаладнеламу студэнціку, частуючы назаўтра ранкам гарачай, з прыгарачкамі, сопкай бульбай у чыгунку ці даючы на дарогу акрайчык чэрствага, часцей за ўсё з мякінаю,

Пасля, чытаючы твае п'есы ці гледзячы спектаклі па іх, я неаднойчы ўспамінаў першую нашу размову і дайшоўшую да майго сэрца тваю любоў да бацькоўскай радзімы, — не, не, ды і чуліся ў маналогу альбо ў рэпліцы таго ці іншага персанажа востры, задзірысты жарт або поўная сарказтычнага смеху досціпка з мовы мясцін нашага зямляцтва, гісторыя або калізія, ведамая нам яшчэ з юнацкіх гадоў і трапна выкарыстаная табою па ходу п'есы.

Больш таго, у тваіх п'есах, гумарэсках, сцэнах сельскага жыцця я сустракаў такія знаёмыя вобразы людзей — ну, як быццам з імі побач не адзін дзень ішоў па адных і тых жа дарогах, ці радуючыся іх поспехам, ці абураючыся разам з табою іх антыграмадскімі паводзінамі. Безумоўна, тут ужо праяўляла сябе твая высокая мастакоўская здольнасць стварыць характары-тыпы, характары яркай, глыбокай самабытнасці і сімволікі, дзе і

(Заканчэнне на стар. 14—15).

 

адметнасць, мастацкая сталасць. Што, зашмат дыфірамбаў? Але ж яна — актрыса ў сапраўдным значэнні гэтага слова.

Да актрысы прыйшла сталасць, ад актрысы не пайшла маладосць — у адчуванні жыцця, у здольнасці здзіўляцца, нешта адчыняць і адкрываць для сябе. Клебановіч не выкладае ў інстытуце, але мае вучняў. Бо сама ўсё жыццё вучылася і вучыцца. З ёю лёгка працаваць у пары над роляй — яна паважлівая, тактоўная, шчодрая на знаходкі. Валодае рэдкім дарам рэжысёрскага бачання п'есы і ролі, філасофскага асэнсавання, уменнем самастойна «нараджаць» вобраз — дзякуючы шчасліваму спалучэнню эмоцый і розуму.

— Вольга Міхайлаўна, некалькі слоў для тых, хто сёння толькі пачынае акцёрскую біяграфію...

— Не важна, калі не іграеш прэм'еру. Заўсёды прыйдзе твой вечар, калі застанешся сам-насам са сваім гледачом і скажаш яму тое, што хочаш і можаш сказаць.

Актрыса Вольга Клебановіч адбылася. Ці настолькі, наколькі магла і хацела? Ці могуць творчыя прастоі, фізічныя і духоўныя страты зрабіцца моцным стымулам для станаўлення акцёрскай асобы?..

Не кожнаму таленавітаму маладому акцёру пашанцуе не згубіць веру ў сябе, не зламіцца. Акцёрскі лёс Клебановіч пацвярджае простае старое правіла нашай рэжысуры: рабіць стаўку на тых, хто ўжо адбыўся. Пэўна, гэта правільна, але правільным магло б быць і не толькі гэта: «Ніводны бліскучы вынік не скупіць творчых і чалавечых выдаткаў», — сказаў неяк А. Эфрос. Дык давайце ж лічыцца з залежнасцю і крохкасцю акцёрскіх і рэжысёрскіх — нашых чалавечых лёсаў. Каб не выспявала балючая ўнутраная незадаволенасць ад таго, што ўжо немагчыма выправіць. Каб наш вечар заўсёды надыходзіў своечасова.

Таццяна **УГРЫНОВІЧ.**

Нерв гэтага твора праходзіць там, дзе побытавыя сітуацыі і фігуры пераносяцца з жыццёвага плана ў іншае вымярэнне: апавяданне пераходзіць у прытчу, і дэталі напаўняюцца пераносным, метафарычным сэнсам. У рамках кожнага эпізода Таркоўскі імкнецца паглыбіць дзеянне, даць карціну душы чалавека.

У першых кадрах «Ахвярапрынашэння» і ў канцы яго гучыць фраза, якая некалі мучыла Фаўста: «Было спачатку Слова». У Аляксандра яна гучыць сцвярджальна, у вуснах хлопчыка — сына Аляксандра, нямога ад нараджэння, які ўпершыню прамаўляе словы ўвогуле, да сцвярджэння дадаецца пытанне: «Чаму так, тата?» У межах, вызначаных гэтай фразай, паўторанай двойчы, ляжыць узыходжанне да ісціны: доўгае, цяжкае, з успышкамі слабасці і страху. Слова аплачваецца ахвярай. Толькі тады яно здольна штосьці змяніць.

Андрэй Таркоўскі належыць да таго тыпу мастака-мысліцеля, якому, паводле Дастаеўскага, «нужно мысль разрешить». Звярнуўшыся да найбольш вострых праблем рэчаіснасці ён смела і настойліва ішоў сваім шляхам. Ён рабіў фільмы, пра якія можна спрачацца, але якія стаяць на надзвычай высокім духоўным і мастацкім узроўні.

Мастацтва — гэта спосаб задаваць пытанні. І Таркоўскі ўпарта ставіў перад сабой адно і тое ж пытанне: што ёсць Ісціна? Паводле Таркоўскага, яна ў вечным пошуку і незадаволенасці, у бясстрашшы задаваць пытанні і ў здольнасці да самаахвяравання.

**Маргарыта ЗАЙЦАВА.**

## ВЫСТАЎКІ

**Мастацтва габелена — даўняе і вечна маладое ў сваім пастаянным абнаўленні — прыцягвае ў гэтыя дні ўвагу наведвальнікаў Палаца мастацтваў у Мінску, дзе працуе персанальная выстаўка лепшых твораў заслужанага мастака Украінскай ССР Людмілы Жогаль, імя якой добра вядома не толькі на Украіне, але і далёка за яе межамі. Габелены, выкананыя Л. Жогаль, прадстаўлены ў многіх музеях краіны, яны выкарыстоўваліся для афармлення шматлікіх грамадскіх будынкаў, дэманстраваліся на выстаўках у ГДР, Польшчы, Чэхаславакіі, ФРГ, Францыі, ЗША і іншых краінах.**

**Людміла Жогаль вучылася ў Кіеўскім дзяржаўным мастацкім інстытуце, а затым, пасля пераводу факультэта мастацкага тэкстылю, у Львоўскім дзяржаўным інстытуце прыкладнога і дэкаратыўнага мастацтва, які закончыла з адзнакай. Скончыла таксама аспірантуру Акадэміі мастацтваў і архітэктуры, з'яўляецца аўтарам пяці кніг і альбомаў, больш пяцідзесяці артыкулаў па праблемах дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.**

**Габелены, прадстаўленыя на выстаўцы, сведчаць аб шырыні творчых інтарэсаў аўтара. Уражваюць трыпціх «Як не любіць такую зямлю...», «Майскія лугі», «Ода Кіеву», самастойныя творы «Знакі задыяка», «Болдзінская восень», «Урачыстасць Перамогі», «Кветкі воінам», «Вечны агонь», «Квітнеючая зямля», «Лета», «Восень» і іншыя работы. Яны нясуць на сабе адзнаку самабытнасці почырку Л. Жогаль, яе здольнасці ствараць мілагучныя вобразныя кампазіцыі.**



Л. ЖОГАЛЬ. «Вечны агонь».

## ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ

# ЧАГО Ж ЁН ЧАКАЕ, КІНАПРАКАТ?

Відаць, яшчэ многія згодзяцца з крытыкай у адрас кінапракату, якая прагучала ў артыкуле Т. Цюрынай «Мёртвы сезон» скончыўся?» («ЛіМ», № 43, 1987 г.), у водгуках чытачоў (№ 52, 1987 г.). Работнікі пракату ў сваю чаргу з лічбамі ў руках абвергнуць, мабыць, тыя ці іншыя пазіцыі, сюю-тую крытыку прызнаюць і г. д. Усё гэта аўтар палемічных нататак, трэба думаць, прадбачыў.

Кінапракат заўсёды быў і заўсёды застаецца дзяржаўнай арганізацыяй, цалкам падпарадкаванай масе (часам проста супрацьлеглых) дырэктыў з верхніх інстанцый. Далёка не самастойна вядзе ён рэпертуарную палітыку ў маштабах краіны, выконваючы пастаўленую перад ім задачу—«качаць касу». Але справа нават не ў тым, што кінапракат сёння дрэнна робіць адно і зусім не робіць другое. Кінапракат сёння ўвогуле займаецца не сваёй справай — ад гэтага ўсе яго беды. Парадаксальна? Але гэта факт. Наш кінапракат узяў на сябе вызначэнне рэпертуарнай палітыкі, за што не раз і быў пакараны. Для гэтага яму не хапае, як зусім справядліва адзначае Т. Цюрына, умення зарыентавацца ў замежным кіно, не хапае «дзелавых людзей з пачуццём бізнесмена і кінамана». Але давайце ўсё ж, паклаўшы руку на сэрца, прызнаемся, што ўсе грахі кінапракату — гэта яшчэ і люстэрка, у якім адбіваецца недапрацоўка Саюза кінематаграфістаў, Дзяржкіно, празмерны «патранаж» шэрагу дзяржаўных арганізацый і г. д., увогуле, і наша няўменне працаваць таксама. Штосьці я не прыпомню выпадку, калі б кінакрытык выказаў жаданне ўзначаліць кінатэатр, навучыць метадычнай рабоце ўпраўленне кінафікацыі і г. д. Далей простага заўважання недахопаў справа не ідзе. Канечне, выяўленне недахопаў — справа важная, але сёння гэтага мала. Сёння патрэбны канкрэтныя прапановы па іх пераадоленні. Ёсць яны і ў артыкуле Т. Цюрынай. Аднак... побач з каштоўнай прапановай аб пераўтварэнні вялікіх кіназалаў у некалькі малых ідзе прапанова «пад патранажам Міністэрства культуры, а не Дзяржкіно». Даруйце, але чым адна чыноўніцкая арганізацыя адрозніваецца ад другой? Ці ёсць у гэтым сэнс? А можа, Міністэрства культуры рэспублікі — ідэальная арганізацыя, і пры адным судакрананні з ёю беларускі кінематограф і кінапракат «вылечыцца» ад недахопаў? Дальбог, наіўна.

Наўрад ці трэба таксама ўскладаць клопат па арганізацыі кінаклубаў на адзін кінапракат. Безумоўна, без кінаклубаў «сёння нельга і марыць пра сучасны ўзровень работы з фільмамі». Аднак нават існуючыя кінаклубы задыхаюцца без удзелу ў іх рабоце прафесійных кіназнаўцаў і кінакрытыкаў. Гэта адбываецца і ў прыгаданым у артыкуле гродзенскім «Ракурсе», і ў сельскіх кінаклубах, пра якія секцыя кінакрытыкаў нават не падазрае, і ў сталічных кінаклубах. Занадта лёгка ўмясцілася ўся прапагандысцкая работа і кінапапулярызатарства беларускіх кіназнаўцаў у невялікай кіназале Дома кіно, дзе сёмы год запар, як з гонарам сцвярджаюць яго арганізатары, праходзяць заняткі семінара па падрыхтоўцы кінапрапагандыстаў «Этапы, стылі, майстры». За межамі камернага семінара падзвіжніцтва кінакрытыкаў у супрацоўніцтве з кінаклубамі заканчваецца. Вядома, ёсць і некалькі шчаслівых выключэнняў з гэтага сумнага жыццёвага правіла, але яны — на жаль—надвор'я не робяць.

Калі Саюз кінематаграфістаў у стане сёння ўзяць на сябе вызначэнне рэпертуарнай палітыкі ў рэспубліцы сумесна з Дзяржкіно, то ён павінен гэта зрабіць. Аднак калі кінапракат гайдануў маятнік у бок забаўляльнай прадукцыі і «замежнай халтуры», сёння, баюся, маятнік можа лёгка гайдануцца назад, цалкам выцесніўшы тое, што намі практычна не вывучана — «баевікі» з іх механізмам глядацкага поспеху.

Кінакрытыкі ў даследаванні феноменаў кінапракату арыентуюцца на эстэтычны крытэрый, калі ж фільм яму не адпавядае, значыць — халтура. Але паняцце «касавы фільм», як мне здаецца, не валодае эстэтычнай якасцю, ніколі не валодала і валодаць не будзе яшчэ дастаткова доўга, а таму гэтае паняцце і не падпарадкоўваецца разгляду з гэтага пункту гледжання. Верагодна, уступаюць у сілу нейкія камунікатыўныя функцыі — праўда, гэта матэрыял для навуковага даследавання. Б. Брэхт заўважаў, што «вкус публики не улучшится, если фильмы очистятся от безвкусицы, зато фильмы станут хуже. Ибо, кто знает, что отбрасывается с безвкусицей? Безвкусица масс коренится глубже в действительности, чем вкус интеллектуалов»...

Кіно, як і кожная іншая форма культуры, мае сваю экалогію з рознымі экалагічнымі нішамі, адведзенымі пад розныя фільмы (як у стылявых, так і ў мастацкіх адносінах). Аналагічна, як і ў раслінным свеце: ёсць падлесак, трава, што затрымлівае гаючую вільгаць для дрэўволатаў, ёсць і вяршаліны, ствалы і кроны. Паспрабуйце знішчыць падлесак — загінуць дрэвы. Таму ёсць у экалогіі кінематографа і месца для культуры «масавай», не можа не быць. Ва ўсе часы існуе барацьба нізкага і ўзвышанага ў мастацтве, дагэтуль яшчэ невядомы нам механізмы перацякання розных ідэй, сюжэтаў, структурных элементаў з нізкага ва ўзвышанае. Не трэба думаць, што на Захадзе Бергман ці Феліні ратуюць «касу», але колькі чэрпаюць яны для сваёй творчасці з «замутнёных крыніц «масавай культуры»?!

Таму свая экалогія павінна быць і ў мінскім кінапракаце. Гаворка не пра адзін кінатэатр праблемнага фільма, хоць і гэта трэба. Усе фільмы маюць права на жыццё, я не агаварыўся, менавіта **ўсе!** Вызначэнне «нішы» для кожнага кінатэатра ў агульным рэпертуарным ладзе — справа кожнага індывідуальнага дырэктара кінатэатра, які ведае добра свайго гледача, соцыум свайго раёна. Рэпертуарная палітыка ў гэтым сэнсе—падтрыманне агульнага збалансаванага цэлага, у якім раўнапраўна існуюць кінаклубная «сетка гарантаванага пракату» і «баевікі», якія з задавальненнем глядзяць не толькі неадукаваныя кінагледачы; кінатэатры праблемнага і элітарнага фільма, тут жа і кінатэатры фільмаў індыйскай вытворчасці.

Гэтая экалогія дасць нам і дэмакратыю відовішчаў, дзе не будуць заціснуты і будуць улічаны густы самых розных пластоў кінагледачоў. А задавальненне імкнення гледачоў да відовішчаў — найстаражытная задача.

А як жа выхаванне гледачоў? Па-мойму, гэта дэмагагічны прыём. Адзінае, што ў стане зрабіць кінаклубы нават элітарнага напрамку, дык гэта прадаставіць магчымасць гледачу знайсці сваё месца ў сістэме кінавідовішчаў, знайсці сваю сістэму каардынат ва ўспрыманні твора мастацтва, вызначыць свой узровень для далейшай самаадукацыі ці самавыхавання. Выхаваць гледача дадзена толькі яму самому.

Дык «чаго ж чакае кінапракат»? Ён і чакае нашай з вамі, таварышы прафесійныя крытыкі, дапамогі ў канкрэтных справах перабудовы застарэлай і недасканалай сістэмы. Чакае гэты няшчасны кінапракат ініцыятывы і ад простых гледачоў, таму што па распараджэнні зверху адбываюцца ўрачыстыя адкрыцці толькі мёртванароджаных кінаклубаў. Чакае кінапракат, магчыма, яшчэ і таго, што хтосьці, нарэшце, стоміцца ад размоў і пачне рабіць справу. А яшчэ, вядома ж, патрэбны пракату і рэарганізацыя (не для рапарту, а каб працаваць стала лягчэй), і камп'ютэры, і рэзкае скарачэнне службовых папер, і г. д.

**Алег СІЛЬВАНОВІЧ,**
**старшыня кінаклуба «Профіль».**

г. Мінск.

# Часопісы ў сакавіку

## «ПОЛЫМЯ»

**Аб сённяшнім стане Нарачы разважае ў артыкуле «Плямы на жамчужыне» В. Лапцік.**

**З вершамі выступаюць Р. Барадулін, С. Басуматрава, А. Лойка, Д. Бічэль-Загнетава, М. Пазнякоў. У раздзеле «З літаратурнай спадчыны» — неапублікаваныя творы А. Бачылы.**

**Проза прадстаўлена раздзеламі з кнігі «Трое» М. Лужаніна, апавяданнем «Пісьмы Караліне» І. Капыловіча, заканчэннем рамана Л. Дайнекі «След ваўкалака».**

**Грамадска - палітычныя погляды Каруся Каганца разглядае М. Біч («Ад родных ніў»). А. Яскевіч піша пра нашага земляка І. Ужэвіча («З кагорты пачынальнікаў»). Некаторыя старонкі гісторыі беларускага балета гартае Ю. Чурко («Дарогі творчасці»). А. Васілевіч успамінае пра М. Ткачова («Прыношу запозненыя кветкі»).**

**У раздзеле «Крытыка і літаратуразнаўства» — артыкулы А. Лысенка «Цямнее край зубчаты бору...» (сучасная публіцыстыка) і С. Андраюка «Вёска — маці наша» (слова пра «Алімліяду» І. Пташнікава).**

**Кнігі рэцэнзуюць У. Гніламёдаў («Повязь» Н. Гілевіча), Д. Бугаёў («Каліна зімы» Я. Янішчыц), М. Кенька («Цёплы пух адуванчыкаў» У. Рубанава), У. Боган («Беларуская мова ў 8 класе» Р. Аляхновіч).**

**Прадстаўлены раздзелы «Культура мовы», «З рэдакцыйнай пошты» і «Дзядоўнік на Парнасе».**

## «БЕЛАРУСЬ»

**Пад рубрыкай «Актуальны погляд» публікуецца артыкул Р. Баравіковай «Як застацца жанчынай?».**

**У нумары — нарысы «Выратавальны круг генетыкаў» А. Шагуна, «Фронт работ брыгадзіра Гайдучыка» Н. Цыпіса, «Вадалазы» В. Зданюка.**

**Друкуюцца вершы Л. Філімонавай, А. Канапелька, К. Шэрмана (пер. з іспанскай В. Сёмухі), А. Бачылы, урывак з рамана Т. Бондар «Спакуса», у якім расказваецца пра юначыя гады Ефрасінні Полацкай.**

**Да 120-годдзя з дня нараджэння М. Горкага прымеркаваны артыкул Т. Дасаевай «Суровы рэаліст і ўзнёслы рамантык».**

**Сярод іншых матэрыялаў — працяг гутаркі А. Шабаліна з Л. Яўменавым «На парадку дня — правы чалавека», артыкул Л. Брандабоўскай «Пачынаючы з праўды», рэцэнзія А. Савіцкага на кнігу Г. Васілеўскай «Крылы», пачатак аповесці Ж. Сіменона «Пад страхам смерці» (пер. з французскай А. Асташонка), чарговая старонка «Анталогіі беларускай паэзіі 20-х гадоў», гумарэска Г. Каржанеўскай «Вучыся вязаць!».**

## «НЁМАН»

**Рубрыку «Нёман» на Палессі» працягвае паэтычны рэпартаж, напісаны Я. Янішчыц (пер. В. Тараса) і Б. Спрынчанам. Паэзія прадстаўлена таксама творамі В. Коўтун (пер. Т. Лейка) і Н. Громавай.**

**Друкуюцца аповесць Л. Вакулоўскай «Вальфрам — метал цвёрды» і пачатак рамана-эсэ А. Лойкі «Францыск Скарына» (аўтарызаваны пераклад Г. Бубнава).**

**У раздзеле «Публіцыстыка і нарысы» выступаюць В. Казько («Па кім сёння звоніць звон») і В. Дубінка («На далёкіх шляхах»).**

**Матэрыялы У. Румянцава «Шлях у рэвалюцыю», А. Мурашова «Партызанская бяроза», Д. Харык «Яго светлы вобраз» аб'яднаны ў раздзеле «Запіскі. Успаміны. Дакументы».**

**«Фальклор і літаратура» — артыкул У. Конана.**

**Змешчаны рэцэнзіі В. Стральцовай (на кнігу В. Вярбы «Яраслаўна») і В. Жыбуля (на зборнік прозы А. Цяжкага «Дзе мой дом?»).**

**Завяршае нумар раздзел «Учора. Сёння. Заўтра».**



 

## ПУБЛІКАЦЫІ



**Баранавых (сапр. Баранаў) Сымон Якаўлевіч. Нарадзіўся ў верасні 1900 года ў вёсцы Рудкова Уздзенскага раёна. Парабкаваў. Служыў у Чырвонай Арміі. Вучыўся. Працаваў. Як і некаторыя яго землякі, выхадцы з Уздзеншчыны, узяўся за пяро. Стаў актыўна друкавацца. Толькі ў 30-м годзе выдаў зборнік апавяданняў «Злосць», аповесці «Чужая зямля» і «Межы». Пачатак трыццатых, такім чынам, быў шчаслівы... А ўжо ў 1933 годзе адзін гора-крытык, патрабуючы «бязлітасна выкрываць усё варожае, нацыяналістычнае, кулацкае на літаратурным фронце», залічваў сюды і творы таленавітага празаіка С. Баранавых, упэўнена заяўляў, што «праяўленне кулацкай ідэалогіі, якое было ўжо ў творы Баранавых «Межы», перарасло ў сістэму кулацкіх, нацыянал-дэмакратычных поглядаў у апошнім творы Баранавых «Матчын сын» і г. д. Гэты так званы літаратурна-крытычны артыкул павярнуўся праз чатыры гады, у 1937-м, для Сымона Баранавых 58-м артыкулам крымінальнага кодэксу. Пачаліся яго «блуканні па пакутах», дакладней па этапах — ад Магілёва да Калымы. З мінулым, з радзімай, з вольным жыццём звязвала толькі пошта, у прыватнасці перапіска з жонкай. У перапісцы — чытач гэта адчуе — адзіны выхад для яго душы, яго пяшчоты, яго добрых пачуццяў. Да горача каханай жонкі ён звяртаецца: «Надзянятка», «Надзейка», «Надзюшка». У адным з лістоў піша: «Твае пісьмы — гэта адзіная радасць, падтрымка, жыццё...».**

**Лісты захоўваюцца ў Дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР. Рэдакцыя выказвае ўдзячнасць яго супрацоўнікам за дапамогу ў падрыхтоўцы лістоў да друку.**

# «ТОЕ, ШТО Я ПАБАЧЫЎ,— НІХТО НЕ РАСКАЖА...»

**15 кастрычніка 1937 г.**

Дарагая Надзейка!

Прыехаў у Магілёў 15 кастрычніка. Чакаем этапу. Адчуваю сябе добра. Вельмі шкада, што ты не прыйшла на станцыю, калі мы ад'язджалі. Жонкі Скрыгана, Мікуліча і Стаха былі. Ты, напэўна, не ведала пра наш ад'езд. Вельмі шкада, дарагая Надзейка. Ты так шмат зрабіла, што перадала мне зімовую вопратку. Цяпер паліто, у якім я хадзіў восенню, я мог бы вярнуць табе. Яно не патрэбна.

Дарагая Надзейка! Добра было б, каб ты выклапатала ў пракурора спатканне. Я быў бы шчаслівы. Я хацеў бы, каб ты прыехала ў Магілёў. Жонка Алеся Пальчэўскага дамаглася з ім спаткання ў Оршы. Прыязджай і тут сходзі да пракурора. Прасі, каб дазволілі сустрэчу. Звярніся таксама да начальніка турмы, ён часам дазваляе спатканні.

Для мяне гэта вельмі неабходна. Я год не бачыўся з табою.

Надзейка, толькі ты не сумуй. Самае галоўнае — здароўе. Я сябе адчуваю добра, толькі трошкі хварэў грыпам.

Мне так хочацца ведаць, як ты жывеш?

Дарагая Надзейка, май на ўвазе, што спатканне тут афіцыйна не дазволена. Але я ўсё роўна пішу табе: можа, ты возьмеш які-небудзь дазвол у пракурора ў Магілёве ці ў начальніка турмы. Перадачы і пасылкі таксама забаронены. Грошы можна пасылаць па пошце. Але ў мяне грошы ёсць. Толькі яны яшчэ знаходзяцца ў Мінскай турме. Начальнік гарадской Магілёўскай турмы гаворыць, што іх нам перашлюць. А пакуль у мяне адна квітанцыя на 90 рублёў. Апошні раз я атрымаў ад цябе квітанцыю на 50 руб. у ліпені месяцы. Адным словам, калі я атрымаю грошы да этапу, то буду забяспечаны на дарогу і прадуктамі. Вось і ўсё пакуль. Жывы і здаровы. Не сумуй, дарагая Надзейка. Глядзі — беражы сваё здароўе. Прывітанне Ані і бабулі. Як расце сын Ані? Ці вялікі ўжо? Я чуў, што Аня хварэла пасля таго, як нарадзіла. Як яна сябе адчувае? Чуў таксама, што цябе ў студзені абакралі. Ці праўда гэта? Калі ты мне адкажаш? Толькі праўду. Няўжо цябе абакралі? Пакуль не пішы, бо я не ведаю, як доўга буду ў Магілёве. Як траплю ў лагер, буду пісаць. Не сумуй, Надзейка. Моцна цябе цалую, дарагая мая Надзейка! Будзь здаровая.

Застаюся твой Сымон.

**3 чэрвеня 1938 г.**

Дарагая Надзейка!

Я пакуль знаходжуся ў размеркавальніку. Вось ужо з 21-га мая. Але здаецца, што заўтра будзем грузіцца ў вагоны для далейшай дарогі. Я табе ўжо пісаў, што еду з лагераў. Куды еду—дакладна не ведаю. І ніхто не ведае з этапных. Але еду яшчэ далей на ўсход. Магчыма, нават на Калыму. Гэта самы далёкі паўночнаўсходні куток нашай Савецкай краіны. Вазьмі, Надзейка, карту і ты знойдзеш гэтую мясціну. Але яшчэ раз паўтараю — дакладна ніхто не ведае, куды паедзем. Адным словам, я не сумую. Дзе б я ні быў, пры маёй чэснай рабоце мне ўсюды будзе добра. Да работы я ўжо прывык і не баюся яе. Адчуваю сябе добра. Быў маленькі грып — цяпер адпусціў. Толькі насмарк застаўся. Пасылку з адзеннем атрымаў напярэдадні ад'езда. Каб на дзень яна спазнілася, я застаўся б з пустымі рукамі. (Я табе ўжо пісаў пра гэта, але ты, магчыма, не атрымала ліста, таму я паўтараюся). Ты, Надзянятка, цяпер мне не пішы, пакуль я сам не адгукнуся з новага месца. Магчыма, ад мяне доўга не будзе ніякіх вестак — месяц ці нават два — ты не сумуй. Калі павернем на Калыму — у дарозе будзем за два месяцы. Я буду вельмі сумаваць: не знаю, калі дачакаюся твайго новага пісьма. Будзе магчымасць — я табе дам з месца тэлеграму з маім адрасам, каб ты хутчэй магла адказаць. Можа, ты і пасылку мне адправіла. Я ўжо не атрымаю... Звонак атрымаў учора дзве пасылкі — сухары і тлушч. Яны ішлі на ферму, але па дарозе іх накіравалі ў размеркавальнік. Яму вельмі пашанцавала. Цяпер паедзе з прадуктамі. Праўда, я таксама не галадаў. У мяне ёсць грошы і яшчэ глячок з маслам і тлушчам. Эканомлю. Вядома, можна было б даўно з'есці. Дарэчы, я не адзін. Побач са мною Залуцкі. Адзін есці не будзеш. У яго была пасылка — масла і цукар. Дык усё выцягнулі. Засталося толькі трошкі сала і сухароў. Калі б не куфэрачак, дык у мяне таксама нічога не ўцалела б. І прытым — я прыглядваю за рэчамі. Жыць пакуль можна. Галоўнае — здароўе і не ўпасці ў нуду. Калі-небудзь — прыйдзе час — убачымся, Надзейка. Тое, што я пабачыў у жыцці, ніхто не раскажа, нівсдная кніга. Жыццё вельмі цікавае. Я яго зразумеў, убачыў. Я прачытаў у «Звяздзе», што ідзе п'еса Крапівы «Партызаны». Вітаю. Савецкая драматургія расце. Крапіва вырас як літаратар, крочыць наперад. Гэта вельмі добра. Радуюся. А з другога боку — бярэ за жывое: а чаму я не магу прымаць удзел у літаратурным жыцці краіны? Так! Крыўдна. Беражы, Надзейка, мой раман, калі-небудзь я дапішу яго. У мяне многа памкненняў. Яшчэ ў сакавіку я падаў на імя т. Калініна заяву. Пакуль адказу не атрымаў. Я спадзяюся, што мая справа будзе перагледжана. Па магчымасці буду табе пісаць з дарогі. Не сумуй, Надзейка. Надвор'е тут дрэннае. Учора ішоў дождж, а пазаўчора дождж са снегам. Быў такі холад, што я надзеў валёнкі. Тут зямля гліністая, і як толькі задажджыць — гразюка непралазная. Галоўнае — гразюка такая клейкая, што ледзь выцягваеш ногі. Праўда, гэтая гразь хутка і высыхае. Гадзіна ветру — і ўжо суха. Надвор'е хутка мяняецца. Сёння з раніцы вельмі цёпла. Грэе сонейка. Сёння, перад этапам, былі ў лазні. Купіў на дарогу кілаграм хлеба. Але здаецца, што з'ем яго яшчэ да дарогі. Калі сядзіш без работы, тады надта хочацца есці. Не сумуй, дарагая Надзейка, чакай лістоў. Прывітанне ўсім родным, дарагім. Часцей хадзі, Надзейка, у кіно, тэатр. Паглядзі «Партызанаў» Крапівы. Напішы пра свае ўражанні. Застаюся здаровы і бадзёры. Моцна цалую цябе, дарагая Надзейка. Назаўсёды твой Сымон.

P. S. Заходзіць сонца. У бараку — гоман. Дзесьці пяюць у куце грузінскую песню. Побач са мною татарын спрачаецца са сваім таварышам на сваёй роднай мове. З другога боку гуляюць на нарах у шахматы. Збіраемся атрымліваць пайку хлеба на заўтра.

Дарагая Надзейка!

Не сумуй. Магчыма, лепей пойдзе маё жыццё. Буду пісаць табе, можа, нават прыедзеш да мяне. Якое гэта шчасце ўбачыць цябе хоць на хвілінку! Увесь час хачу ўбачыць хоць у сне, але ніяк не магу. Часта сню дзядзьку з цёткай. Напэўна, ён успаміне мяне. Буду чакаць твайго ліста. Як ён рэагаваў пра пазычаныя ў мяне грошы? Ці аддаў? Я знарок не напісаў, колькі ён мне павінен. Няхай сам успомніць, калі ў яго засталося чалавечае сумленне.

Пісьмо пасылаю з вагона. Знойдзецца добры чалавек, які апусціць яго ў паштовую скрынку. Прывітанне Ані і яе сям'і. Ці перадала ты ёй радыёпрыёмнік? Калі доўга не будзе ліста — не хвалюйся. З У-ка на Калыму дзесяць сутак ісці параходам. І невядома, колькі мы будзем ва Уладзівастоку. Можа, яшчэ ў іншае месца паедзем. Ніхто нічога не ведае. Моцна цалую цябе, мая дарагая Надзейка. Твой Сым...

Толькі што атрымаў 20 грам цукру. Добра паеў. Што-небудзь купіць — не дазваляюць.

**14 чэрвеня 1938 г.**

Дарагая Надзейка!

Учора раніцай выехалі з Іркуцка. У Іркуцку наш эшалон стаяў цэлыя суткі. Хадзілі ў лазню. Потым увесь дзень еха-

# Размова з Андрэем Макаёнкам

(Працяг. Пачатак на стар. 8—9).

партрэтнае падабенства і абагульняючая канкрэтнасць так запамінальна выдзяляюць, вымалёўваюць кожны персанаж, што верыш: прататыпаў іх недалёка шукаць — яны, верыш, бачыліся табе ў тваёй роднай вёсцы, тваім раёне, былі з табою побач, працавалі ў адным калгасе, арганізацыі, установе, дык як жа іх не пазнаць!..

А яшчэ што мяне захапляла ў табе, дарагі Андрэй, дык гэта твая, я б сказаў, бяспрыкладна-гераічная барацьба за дасягненне пастаўленай творчай і грамадзянскай мэты. Мала хто ведае, якіх выдаткаў душы каштавала табе гэтая барацьба. Калі б не твой прыроджаны аптымізм, не твая цвёрдая вера ў магутныя, праўдзівыя сілы ленінскай партыі, — можа б, і не заўсёды трапляла твае выкрывальна-гняўлівае слова на падмосткі тэатраў. Бо чым вастрэйшая была твая камедыя, чым мацнейшы быў у ёй зарад сатырычнага ачышчэння нашага жыцця ад смецця і бруду бюракратызму і пошласці, ад хлуслівасці і крывадушнай «святасці» прыстасавальнікаў і кар'ерыстаў, жорсткіх сябелюбцаў і эгаістаў, ненавіснікаў усяго сумленна-творчага і наватарскага ў жыцці, — тым цяжэйшым быў яе шлях на сцэнічныя падмосткі, да шматлікіх і чэсных суддзяў сваіх — гледачоў. Бо колькі ж загарадак, шлагбаумаў, перашкод ставілі перад ёй розных рангаў каліберавы і гваздуновы, моцкіны і самасеевы, гудзеевы і цесаковы — выкрытая табою ў п'есах карыслівая чыноўная набрыдзь, якую ты так ненавідзеў і імкнуўся пазбавіць права на існаванне і якая, адчуваючы сілу тваёй нянавісці, усяляк імкнулася перашкодзіць ёй. Гэта сягоння, у нашы ачышчальныя рэвалюцыйныя дні, пасля свайго дваццаць сёмага з'езда, у часы вялікай перабудовы ўсіх сфер нашай дзейнасці, партыя горача заклікае літаратуру шырока і бескампрамісна адкрываць людзям праўду, якой бы суровай і жорсткай яна ні была, без аглядкі на чыны і званні выкрываць аматараў ашуканства народа, ганьбаваць носьбітаў самалюбавання і пазёрства, расхлябанасці і безадказнасці, нахабнага выкарыстання свайго службовага становішча... Як шкада, Андрэй, што цябе няма сягоння ў гэтым вялікім рэвалюцыйным зруху жыцця... Але гэта сягоння. А што было тады, у тыя часы! Калі на ўсякае вострае, смелае слова накладвалася табу, калі кіраўнічымі ўказаннямі патрабавалася ўзгадненне любой свежай думкі, любая няўзгодненая крытыка аб'яўлялася па-за законам. Дзіўны, не дай бог яму вяртання, быў час! Патрабуючы «ўзгадняць» з імі гарачае дыханне сатыры, ахоўнікі каліберавых і глуздаковых не разумелі, што ўжо само гэтае «ўзгадненне» ёсць найзласнейшая сатыра на існуючыя правілы і парадкі. Хаця — што ім было да гэтага? Яны мацавалі сваё становішча, свой уласны дабрабыт, і што ім было да ўсякай там маралістыкі, да лёсу людзей. Як і да лёсу драматурга,—хоць і памры ён, гэта іх не ўзрушыла б...

Я ўспамінаю і ніколі не забуду 1953 год, калі ў цябе нарадзілася камедыя «Выбачайце, калі ласка...» Як яна пакутліва прабівала сабе шлях у жыццё! Ліпенем таго года, як і заўсёды ў такі час, я прыехаў з сям'ёю ў родную вёску Гайшын на Слаўгарадчыне. Пабыць хоць колькі часу на зямлі свайго маленства, дзе вырас і якую палюбіў на ўсё жыццё, — заўсёды было нязменным жаданнем маёй душы: мне хацелася, каб і мае дзеці навучыліся з любасцю слухаць вясновыя песні над Сажовымі берагамі; каб і ў іх сэрцы запала намоцна пачуццё роднасці з людзьмі гэтага краю; каб іх вабіла да сябе і найбагатшая летняя прырода надсажоўскай зямлі з яе чароўнымі колерамі і галасамі, і прыгажосць працы чалавечай, што так шчодра адкрываецца заўсёды ў гарачыя летнія дні... Не скажу зараз, добра рабіў ці не добра, але, ад'язджаючы ў летнія адведзіны роднай вёскі, я ніколі не паведамляў пра гэта каму-небудзь са сваіх сяброў ці знаёмых. Хацелася непрыкметна адарвацца ад гарадской мітусні, ад гарачкі рэдакцыйных будняў, пісьменніцкіх сходаў, гаварыльні, спрэчак, прамоў, «каштоўных» указанняў і парад, павучанняў, папярэджанняў, абагульненняў, вывадаў і г. д., і, аддаўшыся птушыным перазовам і водару жытоў, гоманам лесу і рачной цішыні, — ужыцца хоць на нейкі момант у тое жыццё, якога так не хапала часам, каб душа адчувала сябе па-сапраўднаму шчаслівай. Так было і на той раз. Ніхто не ведаў, і ты таксама, што я апынуўся на Сажы. Якая ж была для мяне нечаканасць (вядома ж, радасная нечаканасць!), калі аднаго дня я ўбачыў на вуліцы, каля сваіх веснічак, цябе. Ты прыехаў...

Але дазволь перадаць слова жанчыне, якую ты вельмі шчыра паважаў, зваў не іначай, як «дарагая, мілая Лідачка», — яна заўсёды чамусьці памятае ўсе жыццёвыя моманты намнога лепей за мяне. Ды і ёй хочацца сягоння пагаварыць з табою, як з жывым, выказаць тое запаветнае, сяброўскае, што праз усё жыццё хвалюе душу. Яна ўспамінае: «Андрэй з'явіўся раптоўна. Паўстаў перад вачыма — як з неба ўпаў. У руках — спінінг і партфель. Расчырванелы, паспеў ужо недзе загарэць. Зарагатаў: «Ну, што, братка, не чакаў? Цяпер вядзі на свае запаветныя мясціны. Усе шчупакі сёння будуць маімі!..» І паказвае на свой спінінг і вялікую бліскучую блешню. «А партфель — гаспадыні». Павітаўся з маці, пакланіўся ёй і пацалаваў руку. Было ўжо на другую палову дня, але Андрэй ад абеду адмовіўся, не цярпелася яму хутчэй на Сож. Стараўся быць вясёлым, аднак я адразу заўважыла, што чамусьці ён зусім не такі, як заўсёды. У вачах былі сум і якаясь... як бы табе сказаць... бунтоўная трывога. Ты таксама гэта адчуў, бо пільна прыглядаўся да яго, а ён табе кажа:

лі каля возера Байкал. Вазьмі, Надзейка, карту, і ты ўбачыш мой шлях. Адным словам — Байкал легендарны, Байкал, пра які пяюць у песні: «Бродяга к Байкалу подходит — рыбачью лодку берет; унылую песню заводит — про родину что-то поет...» Мы глядзелі на гэтае «святое» возера. Яно ў даўжыню 600 км., у шырыню каля шасцідзесяці. Яно самае глыбокае ў свеце — 12 км. А вакол горы. Здалёку нібыта снежныя. Гэта белы камень на іх вяршынях. У гарах здабываюць золата. Я амаль цэлы дзень любаваўся краявідамі праз акно з кратамі. Праехалі шмат тунеляў. Прырода тут прыгожая, надвор'е цёплае, крымскае. Па дарозе ўвесь час горы і лес. Пачаліся вугальныя шахты. Дарагая Надзейка, еду ўсё далей і далей ад цябе. Туга страшная. З перонаў станцый на нас глядзяць са шкадаваннем — часцей за ўсё жанчыны. У нашым вагоне шмат крымінальнікаў. Са мною ляжыць злодзей-рэцыдывіст. На хаду вагон абірае. Хтосьці зацягвае песню. Вунь у куце мардвін пад нарамі пяе і плача. Пяе — не зразумееш пра што, а ўвесь твар заліты слязьмі. Ніхто на яго не звяртае ўвагі. Кожны жыве сваімі думкамі. Яшчэ да Уладзівастока 7 сутак язды. Праўда, мы не ведаем, куды нас накіруюць. Калі на Калыму, то ва Уладзівастоку будзе камісія. На Калыму павязуць здаровых, тых, хто, як кажуць, у целе. Мяне могуць забракаваць па хворых зубах. Я паспрабую схаваць, што ў мяне зубы кепскія. Няхай вязуць на Калыму. Пра Калыму гавораць у нас, як калісьці пра Амерыку. Там будзем здабываць золата. Калі я буду здаровы — гэта ўсё. А пакуль адчуваю сябе добра. Дарэчы, там лета ўсяго 2—3 месяцы. Марозы даходзяць да 70°. Калі трапілю туды — напішу падрабязна. Шкада маладых гадоў. Шкада волі. І за якія грахі такія пакуты? Увесь час гэтае пытанне сядзіць у галаве. Я зусім не вінаваты. І ніколі не быў ворагам Савецкай улады. Нават так званыя «сведкі» — Платон, Міхась, Васіль — на судзе нічога не змаглі прывесці ў доказ, а гаварылі ўвогуле... Гэтыя «сябры» — падлюгі, згубілі галаву. Іх, напэўна, расстралялі. Туды ім і дарога. Яны казалі, што я заходзіў да іх у госці. Дык хіба за гэта мяне трэба судзіць?! Я ніколі не чуў ад іх антысавецкіх выказванняў. Платона я лічыў самым чэсным камуністам. Сапраўды, людзі пазнаюцца ў жыцці. Няма сяброў, і я ніколі не буду іх мець. Ты пытаешся пра 145 арт. З гэтым артыкулам я цудоўна жыў бы ў лагеры. Артыкул гэты азначае незаконнае захоўванне зброі. Я забыўся падоўжыць тэрмін на свой сапсаваны «бульдог», і следчы прышыў мне яшчэ 145 арт. Ён потым знайшоў мой дакумент на права захоўваць зброю, але яму хацелася як мага найбольш начапляць на мяне артыкулаў. Ён быў злосны, што не падпісваю яго ных выдуманых, дзе няма ні слова праўды, пратаколаў. Я пра ўсё гэта напісаў т. Калініну. І яшчэ буду пісаць, як толькі прыеду на месца. 145 — гэта «бытавы» артыкул і па ім у лагеры можна адбываць тэрмін без канвоя. А 76 і 72 — увесь час пад канвоем. Гэта вельмі ціснe на чалавека маральна. Ты працуеш, а над табою стаіць стралок. На брыгаду з 30 чалавек — адзін стралок. Пасля, праўда, прывыкаеш. Але на першым часе гэта вельмі гняло мяне...

Падканвойныя сядзяць у зоне пад наглядам каравула дзень і ноч. І нікуды з зоны не выйдзеш. Гэта тое самае, што турма. Толькі адна «палёгка» — што ты ходзіш на работу. Магчыма, у новым лагеры буду без канвоя. Мае артыкулы самыя лёгкія з палітычных, і асуджаныя па іх у некаторых лагерах працуюць без канвоя. Лагер, у якім я быў дагэтуль, — выпрабавальны, рэжымны. І гэтае выпрабаванне я вытрываў.

Дарагі таварыш! Апусціце гэтае пісьмо ў паштовую скрынку. Абавязкова заклейце. Буду заўсёды ўдзячны вам за вашу паслугу. З таварыскім прывітаннем асуджаны на 10 год па 58 арт. 10 пункту С. Б.

**12 жніўня 1938 г.**

Дарагая мая Надзейка!

Вось ужо з 25 ліпеня як я працую на прыіску. Я табе пісаў з дарогі, але не ведаю, ці атрымала ты мае лісты. Восьмага жніўня я даў табе тэлеграму, у якой прасіў як хутчэй цябе адклікнуцца і прыслаць грошай. За грошы тут можна купіць лагерны паёк. Даюць у ларку масла, цукар, цукеркі, махорку, павідла. І калі ёсць грошы, штодзённа можна купляць у ларку хлеб. Пасылку, якую я прасіў цябе выслаць, трэба вельмі доўга чакаць. Вядома, хоць маленькую, але вышлі — тлушчу, цукру, паперы, махоркі, як мага больш курыльнай паперы. Дарагая Надзейка! Жыву я тут звычайна. Вось ужо некалькі дзён працую... На тачкі ў вагнеткі, а там прамыўка. Працуем па звеннях. У маім звяне чатыры чалавекі. Пакуль не выконваем норму. За выкананне нормы лепей кормяць, даюць лепшы паёк у ларку. Норма тут рашае ўсё. «За норму» б'юцца брыгада з брыгадай, звяно са звяном. У гэтую ноч майму звяну давалі на вячэру спірт. Адным словам, хто добра працуе, можа нават і выпіць. Мясцовасць тут гарыстая, балотная. Растуць брусніцы, дурніцы. Не бачыў ніводнай птушкі, на гарах ляжыць снег. Калі дзяўбем пароду, часта сустракаецца вечная мерзлата. Усе гэтыя дні, а таксама ўчора ноччу церусіў дождж ык. Я атрымаў абмундзіраванне — бушлат, штаны, кашулю, ватоўку, анучы, шахцёрскія галёшы. Але тут мы працуем не ў шахце, а наверсе.

Ты можаш падрабязна даведацца з геаграфіі, якая тут мясцовасць. Дарагая Надзейка! Як я далёка ад цябе! Але ты не сумуй. Галоўнае — здароўе. Калі мы будзем здаровыя — то ўбачымся. Як бы я хацеў цябе ўбачыць! Але гэта зараз немагчыма. Калі я быў у лагерах — ты магла яшчэ прыехаць, а сюды прыехаць немагчыма. Далёка. Пішы мне часцей. Не чакай, пакуль атрымаеш адказ, а пішы і пішы. Твае лісты для мяне — гэта ўсё. Я тут адзін. Ніводнага знаёмага. Усе знаёмыя, як толькі сышлі з парахода, разышліся па розных камандзіроўках. Ды і што знаёмыя — яны ў цяперашнім жыцці мне не патрэбны. Адзіны, хто застаўся ў мяне, — гэта ты, дарагая мая Надзейка. Я жыву табою. На начной змене я часта бачу яркую зорку Венеру. І ведаю, што ты таксама яе бачыш. Можа, нашы погляды сапраўды сустракаюцца на ёй і мы хоць імгненне бываем разам. Я не сумую. Няма часу. І спадзяюся — мы сустрэнемся. Якое для мяне гэта будзе шчасце! Пішы мне, прашу цябе яшчэ раз! Я магу пісаць час ад часу — канчаецца папера і канверты. А пасылку тваю змагу атрымаць месяцы праз тры пасля гэтага ліста... На гэты месяц выкуплю у ларку масла і цукар. Зараз адчуваю сябе нядрэнна. Цалую цябе, мая Надзейка, тысячу разоў. Цалую Аню і дзяцей.

**3 мая 1939 г.**

Дарагая мая Надзейка!

Вось ужо больш месяца, як ад цябе няма лістоў. Я прывык атрымліваць іх часта, таму ўвесь гэты час хвалююся. У сакавіку я адбіў табе тэлеграму. Ты, напэўна, ужо атрымала яе. Я таксама чакаю тэлеграму, тэлеграфнага адказу, а яго ўсё няма. Я пісаў табе ў маіх лістах і ў тэлеграме паведаміў, што я жывы і, як гаворыцца, здаровы. Пасылкі твае мінулагоднія—майскую, жнівеньскую і верасянёўскую—я атрымаў адначасова яшчэ ў канцы лістапада. А другога мая я атрымаў чацвёртую пасылку тваю, якую ты паслала 26 лістапада. Грошы таксама атрымаў. За ўсё, за ўсё, дарагая мая Надзейка, за ўсё тысячу разоў удзячны табе. У апошняй лістападаўскай пасылцы мне дарагое ўсё таму, што да ўсяго там дакраналіся твае рукі. Асабліва смачны тлушч і добрая махорка «Вергун». Дзякуй табе, мая Надзейка, за твой клопат пра мяне. А вазьму ў рукі кісет, зроблены табою, адразу ўспомню цябе.

Грошы — 20 рублёў — таксама дайшлі. Жыву я звычайна. Да апошняга дня працаваў на бойлеры — адаграваў мерзлую зямлю парай з паравога катла. Цяпер тут таксама вясна, пакуль мой бойлер стаіць — ужо зямля сама расстае і заўтра я выйду (дакладна яшчэ не ведаю) на другую работу. Марозу няма. У мінулую ноч быў зусім малы марозік, а ваду добра зашкліла. Снег тут расстае вельмі хутка. Вечаровая зарніца амаль не тухне ўсю ноч. Калі я дзяжуру, то падоўгу гляджу на захад і думаю, дзе ты цяпер, што робіш.

Дарагая мая Надзейка, няма той хвіліны, каб я цябе не ўспамінаў. Бо ты ў маім жыцці адна. І я жыву толькі для цябе адной.

Надзейка, мая родная, калі мы ўбачымся? Я пісаў заяву пракурору СССР і мне адказалі, што заяву маю накіравалі 14 студзеня ў Маскву. Я чакаю з дня на дзень вынікаў. О, якое было б шчасце, калі б перагледзелі маю справу!

...І не забывайся пра мяне, прашу цябе, Надзейка. Я вельмі адзінокі ў маім жыцці. Моцна цалую цябе, мая дарагая Надзейка. Застаюся жывы і здаровы. Назаўсёды твой Сеня.

## Дзмітрый Мікалаевіч ЖУРАЎЛЁЎ

1 сакавіка 1988 г. на 73 годзе жыцця памёр вядомы беларускі мастацтвазнавец, заслужаны дзеяч культуры БССР, член Саюза кампазітараў СССР, Дзмітрый Мікалаевіч Жураўлёў.

Д. М. Жураўлёў нарадзіўся 20 мая 1915 года ў г. Жабінцы Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага музычнага тэхнікума працаваў у сімфанічным аркестры Белдзяржфілармоніі.

У час Вялікай Айчыннай вайны знаходзіўся ў складзе партызанскага атрада «За Савецкую Радзіму» брыгады імя Чкалава.

З 1944 па 1972 г. працаваў на Беларускім радыё спачатку артыстам сімфанічнага аркестра, пасля старшым і галоўным рэдактарам Галоўнай рэдакцыі музычнага вяшчання. З 1972 па 1975 г. Д. М. Жураўлёў рэдактар рэдакцыі музычнай літаратуры выдавецтва «Беларусь».

Пяру Д. М. Жураўлёва належыць шэраг музыказнаўчых работ, якія атрымалі высокую ацэнку грамадскасці. Сярод іх серыя работ пра кампазітараў, музычна-грамадскіх дзеячаў і вядучых выканаўцаў музычных калектываў Беларусі. Як музычны крытык і публіцыст Д. М. Жураўлёў актыўна выступаў у перыядычным друку па шырокім коле праблем станаўлення і развіцця беларускай савецкай музычнай культуры, вёў вялікую музычна-асветніцкую працу на Беларускім і Усесаюзным радыё.

Воінская і мірная праца Д. М. Жураўлёва адзначана ўзнагародамі: медалямі «Партызан Айчыннай вайны» ІІ ступені, «За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне» і іншымі.

Чалавек вялікай сціпласці, патрабавальнасці да сябе і добразычлівасці да калег, Д. М. Жураўлёў назаўсёды застанецца ў памяці ўсіх, хто яго ведаў і працаваў з ім.

**Міністэрства культуры БССР**
**Дзяржтэлерадыё БССР**
**Саюз кампазітараў БССР**
**Саюз журналістаў БССР**

«Не звяртай, Косця, увагі. Дробязі жыцця...» Але не стрымаўся і пачаў расказваць пра п'есу, пра заслоны, якія паўсталі на яе шляху... Што чакае рашэнняў з Мінска і Масквы... Што Леначка, жонка, тэлеграфуе яму пра вынікі сюды, у Гайшын... А да цябе прыехаў выгаварыцца, выкрычацца, і так мо хутчэй будзе праходзіць час... Ды раптам перайшоў на другое — пачаў гаварыць пра сваю сям'ю. З якім захапленнем расказваў пра дачушку Алу, про жонку Алену. Што стала Лена, калі нарадзіла дачушку, яшчэ прыгажэйшая. Хваліў цябе, што маеш дваіх дзетак, і раіў на гэтым не спыняцца. Сабе прарочыў двух хлопцаў і дзвюх дзяўчынак...

Пайшлі на Сож. Рыбалка ў вас была няўдачлівая. Бо не лавілі рыбу, а ўсё гаварылі і спінінгі кідалі абы-як. Пад вечар вярнуліся. Сустракаў усіх першым наш кот. Высока сядзеў на шуле варот і пільна глядзеў на гару. Як толькі закалыхаліся вуды з-за высокага жыта, ён стрымгалоў кінуўся насустрач. Андрэй весела рагатаў. «Бач, які дасціпны! Ай ды рыбалаўчык, ай ды вартавы!..

Было цёпла, нават душна. Стол накрылі пад старой грушай, тут хоць трохі веяла прахаладай. Колькі ў вас было размоў! Як ён табе скардзіўся на тых людзей, якія не даюць яму пісаць праўду... Няўжо яны не разумеюць, што без праўды не можа быць паўнакроўнага жыцця ў грамадстве! «Косця, браток, калі ў мяне атрымаецца, так, як я задумаў, ты пабачыш, што гэта будзе за спектакль! Якая штука!..» Трохі супакоіўся, але ізноў згадваў пра тэлеграму. «Лена ведае, як гэта мне важна, яна не падвядзе, адразу паведаміць!..»

Спалі вы на гарышчы хаты, на сене. Угаманіцца не маглі амаль усю ноч, чутны былі вашы галасы, горача пра штосьць гаварылі. А на досвітку зноў пабеглі на рыбалку. Мама наказвала доўга на Сажы не затрымлівацца, паспяшацца на бліны і аладкі. Бо ў тыя дні надта было спякотліва, і позна паліць печ яна баялася. Вы паслухаліся і прыбеглі з рэчкі рана. Селі за стол. Андрэй хваліў маміны бухоныя бліны, з ахвотай намасліваў іх, а мама ўсё падахвочвала: «Ешце, Андрэйка, на здароўечка, ешце, сем мазаных і сем не мазаных...» Андрэю гэта падабалася, смяяўся, жартаваў. Пасля снедання — мусіць, падзейнічала стома (бо ноччу мала спалі, а потым набегаліся па беразе) — змагліся і задрамалі на траве пад грушаю. Калі ў твары добра прыпякло і спалоханы нечым певень залапатаў крыллем і закрычаў на плоце, — прахапіліся. І, мабыць, не адразу зразумелі, дзе вы і што, бо потым так заскакалі і зарагаталі, як малыя. Папілі проста з гарлача набгом сыраквашы і зноў пашыбавалі на Сож. Пайшлі далёка, ажно за малады лес, за Сямёнаўку. У гэты час прынеслі Андрэю тэлеграму. Ведаючы, як ён яе чакае, я паімчала з тэлеграмаю да вас. Божа! Як Андрэй радаваўся! Абняў мяне і пацалаваў. «Лідачка! Каб ты ведала, якое шчасце ты мне прынесла!..» Яго выклікалі ў Мінск. Камедыя прарвала ўсе рагаткі, яе прымалі да пастаноўкі. Усё было добра і ў Маскве...»

Вось такім, дружа, ты запомніўся мне з тых далёкіх гадоў, і такім ты быў і заўсёды. Не адзін раз захапляўся я цэльнасцю тваёй натуры, глыбокай вернасцю творчаму крэда, тваім няўрымслівым імкненнем захаваць у чысціні, як гэта ні было часам цяжка, адданасць абраным жыццёвым ідэалам.

Бязмоўна, гэтыя якасці дапамаглі твайму смеламу, мудраму таленту стварыць у наступныя гады такія самабытныя, яркія творы драматургіі, як славутыя ў народзе «Лявоніха на арбіце», «Трыбунал», «Зацюканы апостал», «Таблетку пад язык», «Пагарэльцы» ды іншыя, якія адразу заваёўвалі сцэны шматлікіх тэатраў краіны і тысячы і тысячы ўсё новых прыхільнікаў-гледачоў. І прыходзілі ў тваю макаёнкаўскую драматургію ўсё новыя яе даследчыкі і папулярызатары, непадкупныя сябры вялікага сцэнічнага поспеху тваіх п'ес. Шчырыя, чэсныя галасы многіх гэтых людзей і ў Беларусі, і за яе межамі з іх высакародным імкненнем сказаць праўду пра тваю творчасць з'яўляліся той неацэннай падтрымкай, якая так патрэбна была табе са з'яўленнем на свет кожнай новай п'есы. Здавалася б, што яшчэ? — зацікаўленых, грунтоўных даследчыкаў і крытыкаў табе хапала, будзь задаволены ды і ўсё. Але не! Ты і тут быў прынцыпова-сумленным Андрэем Макаёнкам, са сваім праніклiва-адметным поглядам на кожнага таленавітага. Ты заўсёды асабліва сімпатызаваў людзям з павышаным пачуццём адказнасці за глыбіню праўды, з характарамі няўрымслівымі і дынамічнымі, дзейснымі, здольнымі пастаяць за сумленнасць і справядлівасць і ў жыцці, і ў літаратуры, і ў мастацтве. Памятаю, з якой упэўненасцю ў яго будучыні ты гаварыў заўсёды пра маладога крытыка Сцяпана Сцяпанавіча Лаўшука, крытыка, які часта «раздражняў» асобных «дзеячаў» сваёй самастойнасцю, абвостраным пачуццём годнасці, справядлівасці, неспакойлівасцю душы. І жыццё паказала — ты не памыліўся...

Непахісны жыццёвы выбар... Ваяўнічае, актыўнае ўмяшанне ў развіццё жыццёвых працэсаў, стварэнне праўдзівых, пераканальных твораў аб сапраўдных энтузіястах камуністычнага будаўніцтва і іх непрымірымай барацьбе з усім адгніўшым, устарэлым, фальшывым, шкодным, што перашкаджае гэтаму будаўніцтву... Творчая самастойнасць, мастацкае майстэрства, прафесійная кваліфікацыя... Гэта з тваіх выказванняў, Андрэй. Кожнаму б пісьменніку столькі настойлівасці і паслядоўнасці ў энергічным разгортванні гэтых лепшых рысаў сапраўднага творцы! Ты быў глыбока пераканаты, што толькі людзі буйнога, шырокага, маштабнага плана здольны рабіць прагрэс і ў жыцці, і ў літаратуры, і такіх людзей ты рабіў правобразамі сваіх любімых герояў, на іх раўняўся, і гэта няўхільна давала свой станоўчы і яркі плён. На здзіўленне і засмучэнне ўсім бюракратам і чынушам, усякім загадчыкам і распарадчыкам, розных рангаў начальнікам і забараняльнікам і на радасць усім прыхільнікам і сапраўдным сябрам твой драматургічны поступ набіраў сілу і ўпэўненасць і вывеў цябе ў першыя шэрагі драматургаў сусветнага значэння...

Але, дружа мой, усё гэта сталася з цягам доўгага твайго творчага змагання, дзе побач з радасцямі і задаволенасцю было столькі засмучэнняў і болю і нават, я б сказаў, трагічных паваротаў у тваім чалавечым лёсе.

**(Заканчэнне будзе).**

# МУЗАМ НА ПАЦЕХУ

**Надзея СМЯЯНА**

## *Няма спакою*

І мацярынскі ўсхліп
Зноў чую я...
І мне няма спакою...

Нэлі ТУЛУПАВА,
паэма-бая «Гарывада».

**І мацярынскі ўсхліп зноў чую я...
Змаўчыце!
З вялікасным жыццём адзіным
не злаўчыце,
Сяброванькі-гады! І ластаўкі-радочкі!
Верш для мяне пісаць —
спраўляць вяселле дочкі.
Хай ходзіць крытык-зяць і слухае
дакоры,
Як з цешчаю яго гавораць ноччу
зоры.
І мройны маладзік нашэптвае
халодна,
Што быць багачкай слоў сягоння
стала модна.
Паэткі! Вы дарма — пра тайны
і загадкі.
Калі пісаць радкі — дык грэшна,
без аглядкі!
Спакою мне няма. І вольнасці —
таксама.
Змяшчаецца мой лёс у сонца
дзённай раме.
Пасля скажу, пасля! Хто быў мне
самы любы.
Быць шчырай да канца —
дык гэта ж, дзеўкі, згуба!
Не верыце? Дарма! Гарывада ўскіпае.
І ўвесь падтэкст ад Вас рука мая
хавае.**

## *Выдумшчыца*

Я прыдумала гэтых людзей,
Я прыдумала тую любоў...

Любоў ФІЛІМОНАВА,
зборнік вершаў
«Гучныя фарбы».

**Я прыдумала гэтых людзей,
Я прыдумала тую любоў...
Ганарару наблізіла дзень.
І сябрую, рэдактар, з табой.**

**Я прыдумала рыфмы-радкі,
А пасля збудавала з іх мост.
Я прыдумала вобраз такі,
Што ён Музе маёй навырост.**

**Не шкадую! Паэзія-сад!
Будзе ж некалі слоў ураджай.
А пакуль — азірнуся назад:
Каб жа выдумак хто не спужаў.**

**Гучных фарбаў забыты эцюд.
А надзеі — разбуджаны град.
Што мне крытыкі грозлівы суд —
Ад яго я збягу ў Ашхабад!**

## *Хачу даверу*

Аблокі, нібы воўна.
І молада лістам...

Яўгенія ЯНІШЧЫЦ,
кніга лірыкі
«Каліна зімы».

**Аблокі, нібы воўна.
І молада лістам...
Чытач! Мо не ўсё роўна,
Што трапіцца вачам?**

**Хто плодзіць графаманаў?
Хто здзек нясе радкам?
Бяздарнасць — як туманы,
Як боль ад рук — рукам,**

**Якім ані вітацца,
Ні цяжар дзён нясці...
Дай, Верш, з табой расстацца —
І гордаю дайсці:**

**Да Славы пераможнай,
Дзе Бог адзін — Давер!
Чытач! Будзь асцярожным
З тым, што пачуў цяпер.**

**Бо апраўданне Гневу
Адно — Натхненне. Лёс...
А лірыкі пасевы
Не вынішчыць мароз!**

## *Недаспаны ранак*

Ранак, быццам хлапчук,
вачаняты працёр...

Ірына БАГДАНОВІЧ,
зборнік вершаў
«Чаравікі маленства».

**Ранак, быццам хлапчук, вачаняты
працёр...
Дзень — мужчына ліхі —
да дзяўчат заляцаўся.
Пасля вечар-дзядуля распальваў
касцёр.
І на горад з бабулькай-зямлёй
заглядаўся.
І жанчынай стаяла ля ног цішыня.
Твае рыфмы, Ірына, краналіся зораў.
І была ў царстве сумным
ты сёння адна,
Як той ранак-хлапчук, што
не выспаўся ўчора.
Чаравікі згубіла маленства. А дзе?
Можа, там? Можа, тут? Можа,
ў тых вачанятах.
Не саромся, што босай ішла
да людзей —
Гэта верш самы першы ва ўсім
вінаваты.**

## *Хто я?*

Не анёл я? —
Што праўда, то праўда...

Людміла ПАЎЛІКАВА,
зборнік вершаў
«Агледзіны рамонкавай
паляны».

**Не анёл я? Што праўда, то праўда...
Ды табе, жарт, як крытыку рада.
Ёсць забаўныя тэмы. А мне з іх —
адна,
І завецца яна — не заснуць давідна.
Зацалуе мяне маладзенькая проза.
Што ж там, людцы, канецтва
і поспеху поза?
Хай радкі мае пчоламі ў вочы ляцяць.
Як вясной, чытачы, мне
не хочацца спаць.
Матэматыка дзён... Тэлевізара фарс —
Я любові сваёй не шкадую для вас.**

**Маргарыта НІКІЦКАЯ**

### ЗНОЎ СПЯВАЕ

Страказа, якую выгнаў Муравей, пражыла лютую зіму з Хрушчом і ў гэтыя летнія дні зноў спявае.

### ТОЕ І АТРЫМАЎ

Калі спатрэбілася стварыць Еву, Адам доўга думаў, якую частку цела аддаць Богу. Нарэшце аддаў рабро, сказаўшы: «На табе, Божа, што мне нягожа».

З той пары мінула багата часу. І аднойчы Адам, каторы раз пасварыўшыся з Евай, уздыхнуў: «Божа, што ты нарабіў!» І Бог яму адказаў: «З чаго рабіў, тое і атрымаў!»

### УДЗЯЧНАСЦЬ

Рэвізора Грэчкіна прывезлі ў горад на машыне, бо ён не мог узваліць на свае слабыя плечы ўвесь цяжар удзячнасці кіраўнікоў калгаса.

### САМАКРЫТЫЧНАСЦЬ

Ён ведаў сабе цану. На жаль, яна была куды вышэй сабекошту.

### ЯК ТРЭБА І ЯК НЕ ТРЭБА

Калі ў загадчыка атэлье запыталі, чаму ён не вучыць моладзь, як трэба працаваць, ён адказаў: «Мне лягчэй навучыць яе, як не трэба працаваць».

### ЗАРОБКІ І ВЫДАТКІ

— Калі ты, сынок, пачнеш рабіць выдаткі сувымерна са сваімі заробкамі?

— Хутка, тата! Як толькі мае запатрабаванні стануць адпаведна малымі.

### ТОЛЬКІ ШТО СА СТАЖЫРОЎКІ

— Чаму ваша афіцыянтка такая грубіянка?

— Прабачце, калі ласка, яна толькі што са стажыроўкі вярнулася, — адказала загадчыца кафэ.

### ЯКІ Ж ГЭТА ДЭФІЦЫТ?

— Чаму гэта дэфіцытныя тавары схаваны ў вас пад прылаўкам?

— Што вы! Які ж гэта дэфіцыт? Зірніце, усе мае сяброўкі ходзяць у такім дэфіцыце! — абурылася прадаўшчыца.

### МЕНАВІТА ДЛЯ ТАКІХ

— Мне вельмі падабаюцца вашы творы! Я заўсёды з радасцю і асалодаю чытаю іх! А якія вашы далейшыя творчыя планы?

— Пісаць для такіх чытачоў, як вы!

### ТРЭБА БЫЛО ДУМАЦЬ

— Мой сын надумаўся жаніцца і хоча ўзяць дзяўчыну, якая мне вельмі не падабаецца. Не падкажаце, што мне рабіць?

— Трэба было думаць раней і раджаць дачку.

### АД КАГО ЗАЛЕЖЫЦЬ

— Мы з мужам жывём ужо некалькі гадоў, але ў нас няма дзяцей. Як вы мяркуеце, у нас яшчэ будуць дзеці?

— Калі б гэта залежала ад нас, яны ў вас былі б абавязкова!

## Думкі ўголас

**Не плюй у чужую студню: а раптам гаспадар дужэйшы за цябе?**

**Дзіўна: праходзячы кожны дзень па гэтай клумбе, назіраю за ёй, але ніводная кветка так і не ўзышла.**

**А. МАЙСЕЕЎ.**



Малюнак А. ГАРМАЗЫ.



Малюнак А. ПАПОВА.




**7 сакавіка, 19.20**

**«АЛЬПІЙСКАЯ БАЛАДА»**

Прэм'ера фільма-оперы Беларускага тэлебачання паводле аднайменнай аповесці В. Быкава.

Рэжысёр-пастаноўшчык Г. Нікалаеў.

Партыі выконваюць салістка ДАВТа БССР Н. Руднева і заслужаны артыст БССР У. Экнадзіёсаў.

**7 сакавіка, 21.40**

**«ЛІРА». МАСТАЦКА-ПУБЛІЦЫСТЫЧНАЯ ПРАГРАМА**

У святочным выпуску жанчын віншуюць М. Арочка, В. Вітка, Я. Брыль. Вы ўбачыце нарыс пра старэйшую беларускую пісьменніцу і грамадскую дзяячку З. Верас, пачуеце верш М. Цвятаевай у перакладзе В. Аколавай, сустрэнецеся з жанчынамі Тураўшчыны, Случчыны, Мсціслаўшчыны, Гродзеншчыны.

**8 сакавіка, 8.40**

Канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору БССР імя Г. І. Цітовіча.

У праграме народныя песні і танцы.

**8 сакавіка, 19.30**

**«ПЕСНЮ БЯРЫЦЕ З САБОЮ»**

Тэлевізійны фестываль беларускай песні. У ім прымуць удзел вакальна-інструментальны ансамбль «Сябры», група «Лексіс», Н. Бярнацкая, М. Скорыкаў, дзіцячы фальклорны ансамбль БТР, эстрадна-сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам Б. Райскага, заслужаная артыстка БССР Т. Раеўская.

**9 сакавіка, 19.25**

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

Вершы М. Танка чытае народная артыстка БССР М. Захарэвіч.

**12 сакавіка, 19.35**

**ТЭЛЕВІЗІЙНЫ ВЕРНІСАЖ**

Канцэрт ансамбля скрыпачоў Вялікага тэатра Саюза ССР.

У праграме Тарціні, Гендэль, Паганіні.

**12 сакавіка, 23.30**

**ВЯЧЭРНІ КАНЦЭРТ**

П. Чайкоўскі. Варыяцыі на тэмы ракако.

Выконваюць заслужаная артыстка РСФСР Н. Гутман (віяланчэль) і Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр БССР. Дырыжор Ю. Цырук.

**13 сакавіка, 11.50**

**М. ГОРКІ. «ДЗЕЦІ СОНЦА»**

Спектакль Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

Рэжысёр-пастаноўшчык М. Пінігін.

Ролі выконваюць: народны артыст СССР В. Тарасаў, артысты А. Іваннікава, Т. Пузіноўская, М. Кірычэнка, А. Падабед, В. Манаеў і іншыя.

Уступнае слова — пісьменніка В. Нікіфаровіча.

**13 сакавіка, 15.15**

**ПРЭМ'ЕРА ПЕСНІ**

Я. Эльпер, А. Глобус. «Поўня».

Выконвае Н. Бярнацкая.

**13 сакавіка, 16.25**

**ЗАПРАШАЕ ЧАСОПІС «БЕЛАРУСЬ»**

З сакавіцкім нумарам часопіса знаёміць Р. Баравікова.

**13 сакавіка, 23.05**

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Інфармацыйна-музычная праграма.

*Паважаны таварыш рэдактар!*

Прашу праз Вашу газету сказаць сардэчнае дзякуй усім, хто павіншаваў мяне з маім васьмідзесяцігоддзем.

**Ядвіга БЯГАНСКАЯ.**

Шаноўны таварыш рэдактар!

Прашу праз Вашу газету выказаць шчырую падзяку ўсім установам і добрым людзям, якія павіншавалі мяне з нагоды майго 60-годдзя.

**Уладзімір ДАМАШЭВІЧ.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 05102
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаваныя на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.